



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

18 чэрвеня 2021 года №25 (1364)

18+


## «Параілі памяняць грамадзянскую пазіцыю»

**Беларускамоўнай настаўніцы фізкультуры не працягнулі кантракт**



старонка 5

Фота Настассі УТКІНАЙ.





ISSN 1991–7155

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

**Як жыве шматдзетная сям'я з Маладзечна, у якой двое дзяцей маюць інваліднасць**

старонкі 18-19

**Паглядзіце, выпускнікі якога раёна сабралі сёлета найбольшы ўраджай медалёў**

старонка 2

**Год таму маладзечанцы масава выйшлі на акцыю пратэсту супраць арышту Віктара Бабарыкі**

старонка 8

# «Дзякуючы выпускнікам пра Вілейку ў Беларусі ведаюць шмат»

## Як прайшоў раённы выпускны

ВІЛЕЙКА

**«Другая гімназія – лепшая!», «Трэцяя школа! Трэцяя школа!», «Чурлёны – лепшыя за ўсіх!» – неслася ўвечары 10 чэрвеня над вуліцай 17 Верасня ў Вілейцы. А ўсё таму, што ў гэты дзень тут правялі раённы выпускны.**

Летась свята адмянілі з-за пандэміі каронавіруса. Сёлета не сталі. Па традыцыі выпускнікі сустрэліся на плошчы Свабоды, дзе вядучыя пачалі свята. Пасля ўрачыстым шэсцем разам з класнымі кіраўнікамі, дырэктарамі школ у суправаджэнні духавога аркестра і мажарэтак прайшлі па 17 Верасня ў цэнтр горада, дзе зладзілі асноўную частку свята.

Пакуль выпускнікі праходзілі праз святочную браму з паветраных шароў, вядучыя сказалі некалькі слоў пра выпуск кожнай школы. Так можна было даведацца, што сёлетнія выпускнікі Вілейшчыны – разумныя, прыгожыя, крэатыўныя, пераможцы спартыўных спаборніцтваў, прадметных алімпіяд і конкурсаў розных узроўняў.

Сёлета ў гімназіі «Логас» – 39 выпускнікоў. 12 гімназістаў атрымалі медалі. Другую гімназію скончылі 19 юнакоў і дзяўчат. У СШ №3 – 32 выпускнікі, а ў Нарочы і Вязыні – па пяць.

**На Вілейшчыне сёлета 198 выпускнікоў. 20 з іх атрымалі медалі – 18 залатых і два сярэбраныя. Для ўручэння гэтых узнагарод выпускнікі падымаліся на святочную сцэну разам з бацькамі.**

– Гэты выпуск – асаблівы. Сёлета дзякуючы вашай стараннасці ў нас у раёне 18 залатых і два сярэбраныя медалі. А яшчэ 11 перамог на абласным этапе рэспубліканскай алімпіяды і дзве перамогі ў заключным этапе.

**Дзякуючы вам Беларусь даведалася, што ў Вілейцы вельмі добра гуляюць у баскетбол і займаюцца валанцёрствам.**

І ўвогуле, Беларусь больш даведалася пра Вілейку. Я ведаю, вы цудоўна здалі экзамены.

Веру, што настане час, калі вы пасля вучобы вернецеся на Вілейшчыну і мы будзем ганарыцца вашымі працоўнымі поспехамі. Сардэчна запрашаем на Вілейшчыну! – адзначыў у віншаванні начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама **Аляксандр Пуцэйка**.

Былі таксама віншаванні ад старшыні Вілейскага райвыканкама **Алега Бегунца**, яго намесніцы **Людмілы Сляпцовай** і дэпутата **Ірыны Супрановіч**. Закончылася свята вальсам і запускам у неба чырвоных і зялёных паветраных шароў.




Выпускнікі з Чурлёнаў рыхтуюцца прайсці праз святочную браму

### Які ўраджай медалёў сабралі сёлета выпускнікі

Ва ўпраўленнях адукацыі райвыканкамаў мы даведаліся, які ўраджай медалёў сабралі сёлета выпускнікі Маладзечаншчыны, Вілейшчыны, Мядзельшчыны, Валожыншчыны, Астравеччыны, Ашмяншчыны, Смаргоншчыны. Паглядзіце:

| Раён | Колькасць выпускнікоў | Колькасць медалёў |
|---|---|---|
| Маладзечанскі | 626 | 64 |
| Смаргонскі | 266 | 35 |
| Вілейскі | 198 | 20 |
| Астравецкі | 189 | 24 |
| Валожынскі | 171 | 15 |
| Ашмянскі | 157 | 40 |
| Мядзельскі | 153 | 13 |

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Памёр пісьменнік Леанід Левановіч

## Да апошняга часу ён жыў на лецішчы ў Вілейскім раёне

ВІЛЕЙКА

**Пра смерць сябра арганізацы 14 чэрвеня паведаміў Саюз беларускіх пісьменнікаў.**

Нарадзіўся Леанід Кірэевіч Левановіч у сялянскай сям'і ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна ў 1938 годзе. Вучыўся ў Магілёўскім культасветвучылішчы, на журфаку БДУ, працаваў у рэспубліканскіх газетах, літаратурных часопісах, на тэлебачанні, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Член Саюза пісьменнікаў СССР ад 1975 года.

Друкаваўся ад 1955 года. Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі» (1971), «Зялёны трохкутнік» (1973), зборнікаў аповесцяў і апавяданняў «Мадонна з кветкаю» (1976), «Якар надзеі» (1979), зборніка публіцыстыкі «Хлеб і мужнасць» (1987).

У цыкле раманаў-хронік пра паслываенную вёску «Шчыглы» (1986), «Паводка сярод зімы» (1989), «Дзікая ружа» (1993), «Сіняе лета» (1998) імкнуўся паказаць народную душу, жыццястойкасць беларускай нацыі, матывы дома і сям'і, працягу роду. Аўтар кнігі «Вяртанне ў радыяцыю» (1997). Працаваў і як драматург.

Да апошняга часу Леанід Кірэевіч жыў у вёсцы Пятрылава Хаценчыцкага сельсавета, гаспадарыў, займаўся пчалярствам. Неаднаразова бываў на сустрэчах з вучнямі ў Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаця і быў героем нашых публікацый.

Калектыў «Рэгіянальнай газеты» выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім Леаніда Кірэевіча.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота «Народнай волі».

Леанід Левановіч.



Так выглядала гаспадарчая пабудова ў Лебедзеве, у якую летам 2018 года трапіла маланка. Дах цалкам згарэў, а хлеў выгараў знутры.

Фота забяспечана Валянцінай СОЛАЙ.

# Як паводзіць сябе ў навальніцу

**Самая вялікая небяспека пры навальніцы – паражэнне маланкай. Каб пазбегнуць яе, МНС нагадвае, як неабходна паводзіць сябе падчас непагадзі.**

### Калі навальніца заспела вас у доме, кватэры, будынку

– Неабходна адключыць усе электрапрыборы і выцягнуць штэкер вонкавай антэны з тэлевізара, спыніць тэлефонныя размовы;

– зачыніць вокны, дзверы і коміны, каб не было скразнякоў;

**– адысці ад акна, печы, каміна, масіўных металічных прадметаў, не знаходзіцца на даху і на гарышчы, не дакранацца да прыбораў ацяплення;**

– не прымайце ванну, душ і не мыйце посуд.

### Што рабіць, калі навальніца заспела на вуліцы

– Пакіньце адкрытую прастору і зайдзіце ў любы будынак;

– не дакранайцеся да сцен. Трымайцеся ўдалечыні ад любых правадоў, не падыходзьце да маланкаадводаў;

**– не карыстайцеся мабільным тэлефонам. Не стойце паблізу высокіх слупоў, ліній электраперадачы, дрэў, рэкламных шчытоў;**

– нельга бегаць, ездзіць на ровары, мапедзе, матацыкле, роліках.

### Што рабіць, калі вы падчас навальніцы ў машыне

– Трэба спыніць рух, застацца ў аўтамабілі;

– зачыніць вокны, апусціць антэну, заглушыць рухавік і перачакаць навальніцу ў салоне аўтамабіля;

– не дакранацца да ручак дзвярэй і іншых металічных прадметаў;

– не браць у рукі мабільны тэлефон.

### Што рабіць, калі навальніца, а вы ў лесе

– Трымайцеся далей ад высокіх дрэў, якія стаяць асобна;

– не размяшчайцеся ля вогнішча, бо слуп гарачага паветра добра праводзіць электрычнасць;

– улічыце, што часцей за ўсё маланка трапляе ў дубы, таполі і вязы, радзей – у бярозу і клён;

– схавайцеся паміж нізкарослых дрэў і густых крон.

Акрамя таго, выбіраючы сабе схованку падчас навальніцы, звярніце ўвагу, каб побач не было расшчэпленых дрэў, раней пашкоджаных навальніцай. Грунт на дадзеным участку мае высокую электраправоднасць, таму вельмі верагодна, што ўдар маланкі можа трапіць сюды яшчэ раз.

### Што рабіць, калі навальніца застала вас на адкрытай мясцовасці

– Не стойце на ўзвышшах, ля слупоў ліній электраперадачы і пад правадамі;

**– пашукайце яму або яр. Калі ж ніякіх паглыбленняў паблізу няма – прысядзьце на кукішкі, рукамі абхапіўшы калені;**

– не хавайцеся ў стозе сена, сцірце саломы, у адрынах;

– не хадзіце басанож і не падымайце над галавой рыдлёўку, матыку, касу, вуду. Гэта токаправодныя прадметы.

### Што рабіць, калі ў час навальніцы вы на вадаёме

– Выйсці з вады, адысці далей ад берага і знайсці схованку;

– калі вы ў лодцы, неадкладна плывіце да берага. Калі гэта немагчыма, абсушыце лодку, падыміце ахоўны тэнт, надзеньце сухую вопратку, падкладзіце пад сябе выратавальную камізэльку або боты;

**– перастаньце рыбачыць, бо снасці з'яўляюцца правадніком для электрычнасці.**

Калі вы хочаце ведаць, што рабіць у розных надзвычайных сітуацыях, як правільна развесці вогнішча, што рабіць, калі вас укусіў клешч, праверыць свае веды па бяспецы жыццядзейнасці, быць у курсе неспрыяльных з'яў, усталюйце на сваім мабільным тэлефоне дадатак «МНС Беларусі. Дапамога побач!», і вы знойдзеце ў ім адказы на ўсе пытанні пра бяспеку.

**ГРАНС Маладзечна.**

---

**ЛІЧБА НУМАРА**

**303**

столькі раслін занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі.



**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.06 | 17.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5007 | **2.4954** |
| Еўра | 3.0465 | **3.0262** |
| Злоты, 10 | 6.8424 | **6.6930** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4694 | **3.4673** |
| Грыўня, 100 | 9.2334 | **9.2192** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **10.06** | **17.06** |
| Еўра | 3.0000/3.0900 | **2.9700/3.0500** |
| Долар ЗША | 2.4700/2.5350 | **2.4500/2.5200** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **9.06** | **16.06** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 24,93 | **22,90** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **4,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **8,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,90 | **2,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 2,30 | **1,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **7,50** |
| Бульба маладая, 1 кг | 2,40 | **2,70** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,50** |
| Капуста маладая, 1 кг | 1,70 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,40 | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,60** |
| Перац, 1 кг | 8,50 | **9,50** |
| Радыс, 1 кг | 2,00 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 7,00 | **10,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 6,00 | **5,00** |
| Бананы, 1 кг | 3,80 | **3,30** |
| Вінаград, 1 кг | 8,50 | **10,00** |
| Грушы, 1 кг | 5,50 | **4,90** |
| Кавуны, 1 кг | 1,50 | **3,00** |
| Клубніцы, 1 кг | 10,00 | **4,90** |
| Лімоны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 7,00 | **7,50** |
| Чарэшні, 1 кг | 12,00 | **10,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## У аварыі ў Мінскім раёне загінулі двое маладзечанцаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Увечары 14 чэрвеня на трасе Мінск-Маладзечна-Нарач паміж вёскай Шчарбіны і МКАД-2 здарылася сур'ёзная аварыя. Пра яе нам расказаў наш чытач, які стаў сведкам здарэння. Інфармацыю пацвердзіла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Алена Крупеніна**.

– Аварыя здарылася 14 чэрвеня каля 11 вечара. Я ехаў з працы дамоў. Мяне перад Шчарбінамі абагнаў «Пасат». Ён праляцеў на вялікай хуткасці. Было бачна, як спрацавала камера, што стаіць у Шчарбінах, – расказвае сведка. – Далей убачыў, як патухла сустрэчнае святло і з'явіліся дробныя ўспышкі агню. Калі пад'ехаў бліжэй, зразумеў, што здарылася лабавое сутыкненне «Пасата» з фурай. Я спыніўся, выйшаў. Побач стаяў у шоку кіроўца фуры. Легкавая машына была вельмі моцна пашкоджаная, з яе быў відаць чалавек. Аўтамабіль пачынаў гарэць. Мы тушылі вогнетушыцелямі, якія мелі з сабой. Але гэтага аказалася недастаткова.

Пачалі спыняцца іншыя кіроўцы. Неслі вогнетушыцелі, пацізу збівалі полымя. Людзі дасталі кіроўцу. Ён, здаецца, адразу быў з пульсам. Прыехалі работнікі МНС, пасля медыкі. Яны канстатавалі смерць кіроўцы. Пасажыра выратавальнікі выразалі з салона, медыкі хацелі яго ўратаваць, аднак не змаглі.

Абставіны здарэння пацвердзіла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Алена Крупеніна**. Па яе інфармацыі, загінулыя ў «Пасаце» – 29-гадовыя маладзечанцы.

**Сутыкненне здарылася з-за таго, што кіроўца легкавіка не справіўся з кіраваннем і выскачыў на сустрэчку. Тут ён сутыкнуўся з цягачом «Рэно-Прэміум» з паўпрычэпам, якім кіраваў 28-гадовы мужчына, таксама жыхар Маладзечна.**

Па папярэдняй інфармацыі, кіроўца і пасажыр «Пасата» не былі пршпіленыя рамянямі бяспекі.

Следчыя ўстанаўліваюць абставіны здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына абліўся бензінам і падпаліў сябе

**АШМЯНЫ**

На Ашмяншчыне мужчына спрабаваў сябе падпаліць.

14 чэрвеня каля 12 гадзін выратавальнікам паступіла паведамленне аб спробе суіцыду. Здарэнне адбылося ў вёсцы Гарэцкаўшчына.

**На тэрыторыі прыватнай уласнасці мужчына абліўся бензінам і падпаліў сябе.**

Мужчыну 54 гады, ён беспрацоўны.

**Паводле прэс-службы МНС.**

## Каля Чысці цалкам згарэў будаўнічы вагончык

**МАЛАДЗЕЧНА**

12 чэрвеня ў 13:39 паведамілі пра пажар у Чысцінскім сельскім Савеце ў вёсцы Асавец па вуліцы Гомельскай.

**Па прыездзе падраздзяленняў устанавілі, што гарыць будаўнічы вагончык. У выніку пажару вагончык знішчаны цалкам. Прычыну высвятляюць, расказалі ў ГРАНС Маладзечна.**

МНС папярэджвае: прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. Беражыце сябе і сваіх блізкіх.

**У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112, не забываючы назваць адрас і месца здарэння.**

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечанае Дыянай ГАЛУЗАЙ.

На месцы смяротнай аварыі.

# Весялун з самотным сэрцам

## Сябры загінулага матацыкліста прыгадваюць сябра і збіраюць грошы для яго сям'і

**Смяротная аварыя здарылася ноччу 12 чэрвеня. У 3:35 кіроўца «Сузукі-Катана» ехаў у бок Мінска. Як паведамляе Маладзечанская ДАІ, каля павароту на Татаршчызну матацыкліст наехаў на лася, што выйшаў на дарогу. Мужчына ад атрыманых траўмаў загінуў на месцы аварыі.**



Фота забяспечанае чытачом «РГ».

**Павел Рамановіч – у цэнтры. Крысціна прыгадвае, што ў гэты дзень хадзілі ў кіно са сваёй кампаніяй матацыклістаў. Усе былі з колай і папкорнам, а Паша, як заўсёды, з дамашняй ежай.**

Загінулы – 33-гадовы жыхар Чысці **Павел Рамановіч**. Вось што расказалі ў памяць пра Паўла яго сябры.

– Паша – мой аднагодак, – расказвае **Руслан**. – Пазнаёміліся гады тры-чатыры таму. Прыйшоў да мяне ў аўтамагазін цікавіцца пра матацыкл. Пасля пачалі разам збірацца і катацца. Быў вельмі добры і вясёлы. Пастаянна ездзіў з рукзаком, у яго там была ссабойка, якой дзяліўся. Наведвалі з ім мотазлёты.

– У нас ёсць агульная кавярня, дзе мы ўсе дружна збіраліся за кубкам кавы, – расказвае знаёмая Паўла **Сафія**. – Цяпер збіраем там грошы для дапамогі родным Паўла. Кавярня Kavain на Вуліцы стрытфуда. Што тут сказаць… Не верыцца, што менавіта ён апынуўся ў такой сітуацыі. Вельмі вясёлы чалавек, заўсёды падтрымае размову і падыме настрой! Ніколі нічога не шкадаваў, усе знаёмыя агульныя памятаюць яго знакамітыя ссабойкі, якімі імкнуўся пачаставаць кожнага сябра. Бывае, скажа лішняе, але гучала не крыўдна, умеў пераказаць жартам. Усім нам будзе не хапаць гэтага веселуна.

– Мы ў адной мотакампаніі былі, я не скажу, што вельмі добра яго ведала, але калі прыходзіў ён, атмасфера адназначна мянялася, – прыгадвае яшчэ адна знаёмая Паўла. – Заўсёды расказваў нейкія пацешныя гісторыі, заўсёды было весела з ім. Такі добры і спагадлівы. Звычайна падыходзіць і кажа: «Здароў, малая, цукерку будзеш?» Расказваў, як хацеў матацыкл такі, раней на «Яве» катаўся. Кажа: «У мяне ён не такі магутны, але мне падабаецца». Вельмі шкада, ён заўсёды казаў, як хоча любові, сям'ю... Шкада, што не ўбачыў шчасця, якое так хацеў... Як кажуць, «калі людзі сыходзяць, гэта не значыць, што мы перастаём іх любіць...».

– Наш мотабрат, паплечнік, сябар, таварыш, – прыгадвае Паўла знаёмая **Крысціна**. – Ён вельмі любіў матацыклы, ніколі хутка не ездзіў. Калі кампаніяй ехалі куды-небудзь, заўсёды ехаў апошні. З ім заўсёды было весела. Дзе б ні быў Павел, заўсёды разрадзіць абстаноўку, павесяліць, насмяшыць. Заўсёды вазіў ссабойку, мама яго адпраўляла са смачнымі катлеткамі, агурочкамі і пячэнькамі. Як толькі прыязджаў у цэнтр, заўсёды ўсіх частаваў. Не быў жанаты і не меў дзяцей, сэрца было самотнае. Доўгі час працаваў дальнабойшчыкам, шмат краін пабачыў, вечна расказваў гісторыі, што ў яго там здараліся. Любіў свой матацыкл. Ніколі нікому не даваў на ім катацца – «я гаспадар, я езджу». Заўсёды вазіў з сабой другі шлем, раптам спатрэбіцца падкінуць каго-небудзь да дому. Ніколі нікога не пакрыўдзіць, а наадварот, пастараецца дапамагчы і падказаць. Пішу і плачу, паверыць не магу, і не змагу, напэўна.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# «Параілі памяняць грамадзянскую пазіцыю»

## Беларускамоўнай настаўніцы фізкультуры не працягнулі кантракт

**61-гадовай Маргарыце Альгердаўне Собаль у канцы мая не працягнулі кантракт у якасці настаўніка фізічнай культуры гімназіі-каледжа мастацтваў.**

Жанчына расказала пра тое, як прыйшла да беларушчыны і як развіталася з працай, якую любіла ўсім сэрцам.

Маргарыта нарадзілася ў Маладзечне, закончыла сярэднюю школу №7. Вучылася ў адным класе з **Наталляй Пашчук**, а іх настаўнікам быў **Георгі Корсак**. Бацька займаў высокі адміністрацыйны пост у будаўнічай галіне, маці працавала фельчарам. Бацькі па маці са Смаргоні, па бацьку – з Паставаў.

– Наш ёсць радавое дрэва з 1640 года. Прыйшлі дадзеныя з Віленскага архіва – як кажуць, па лініі бабулі па мячы. Яна была шляхцянка з прозвішчам Гейбовіч.

### Супраць былі ўсе

Падчас вучобы ў школе Маргарыта займалася спартыўнай гімнастыкай. Пасля школы была ўпэўненая: больш нагой не ступіць у спартыўную залу, так ужо надакучыла. Скончыла эканамічную ВНУ і працавала таваразнаўцам на міжрайбазе. Выпадкова зайшла ў спартыўную залу павітацца са сваім трэнерам. Як зайшла, так і засталася. Набрала маленькіх дзяцей, пасля асноўнай працы на міжрайбазе ляцела да малых – падрыхтоўчай групы. Праз тры гады, як закончылася адпрацоўка пасля інстытута, пайшла туды працаваць:

– Наперакор усім, не ведаю, адкуль у мяне ўзяліся гэтыя сілы. Былі супраць усе! Кінула міжрайбазу – а гэта было надта хлебнае месца ў тыя гады, быў агульны дэфіцыт, а там многае можна было купіць.

Жанчына пайшла працаваць трэнерам у спартыўную школу. Там зразумела – гэта яе справа. Пасля захварэла дачка. Маргарыта не магла так шмат часу аддаваць спорту, колькі патрабавалася. Тады Собаль прыняла настаўнікам фізкультуры тагачасны дырэктар гімназіі-каледжа мастацтваў **Людміла Васілевіч**.

Цяпер Маргарыта даглядае маці, якая не ходзіць. Калі дачцэ Ганне было чатыры гады, яна захварэла на эпілепсію. Ганна з дзяцінства мае інваліднасць. Цяпер ёй 33 гады.

– У Ганулі свой свет, мы яе любім. Што маем, з тым і жывём. І спрабуем яшчэ быць шчаслівымі.

### Беларушчына

У 90-х сябар аднойчы запрасіў Маргарыту ў маладзечанскае аб'яднанне «Беларуская хатка», якой кіраваў **Міхась Казлоўскі**.

– Я ж гарадская, ніколі не мела дачынення ні да беларускай мовы, ні да культуры. Тады ўпершыню пачула, што людзі размаўляюць па-беларуску ў паўсядзённым жыцці, пачула такія словы. Пацікаў пачала цікавіцца гэтай тэмай. Лекцыі чытаў **Генадзь Каханоўскі**, **Мікола Ермаловіч**, **Барыс Сачанка**, там сустракаліся з **Сяргеем Дубаўцом** і **Таццянай Сапач**. Гануля была ў вазочку, я з ёй прыходзіла. Пэўна, праз хатку і прыйшла ў рух БНФ. Гэта перакуліла свядомасць.

У 1994 годзе Собаль была назіральнікам на выбарах у палітэхнікуме. Там на ўчастку перамог **Пазняк**.

– Мы сталі каля стала, лічылі бюлетэні, усё было празрыста. Было шмат розных сходаў, збіраліся на пасяджэнні дэпутатаў. Усё было вельмі энергічна, нічога мы не баяліся. Быў час перамен.

Аднак былі і сітуацыі, калі выклікалі на размовы ў райкам партыі.

– Генадзь Каханоўскі ад Таварыства беларускай мовы неяк вазіў нас у Вільню. Гэта была паездка! Упершыню ўбачыла Вільню вачыма беларусаў. Колькі год прайшло, а не магу забыць тую паездку. Удзельнічала ў Чарнобыльскім шляху – разам з намі былі **Васіль Быкаў**, **Алесь Адамовіч**. Міліцыя патрабавала разысціся, але мы працягвалі ісці.

**– Год таму ці было адчуванне, што на гэты раз будзе па-іншаму?**

– Не было. Прывыкла адказваць за сябе. Я ніколі не галасавала за Лукашэнку, у мяне была цвёрдая пазіцыя. Разумела, што найперш павінна быць сумленнай сама з сабой.

**– Ці адчувалі ідэалагічны ціск у школе да жніўня 2020?**

– Ніколі. Школа – не пляцоўка для выказвання палітычных поглядаў. Працавала сабе



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Маргарыта Альгердаўна Собаль.

і працавала. Але заўсёды на ўроках імкнулася дзецям расказваць пра нейкіх асоб з беларускай гісторыі. Адна справа, калі пра гэта расказваюць на гісторыі, і зусім іншая – па-за ўрокам. Пытаюся, ці ведаеце вось такога чалавека. Адказваюць – раз вы пытаецеся, дакладна беларус. Калі-нікалі пра такое гаварылі. І ўрокі праводзіла па-беларуску – каб дзеці калі не размаўлялі па-беларуску, то хаця б чуюць, а пасля да іх гэта прыйдзе, калі паразумнеюць.

### Як прайшло 9 жніўня

– Я не такая смелая, як людзі, што сталі насупраць міліцыі. Я была на плошчы, бачыла там вельмі шмат людзей, многія былі з дзецьмі. Бачыла, што ўсё мірна і ціха, ніхто нікога не чапае, ніякай агрэсіі. Людзі запальвалі ліхтарыкі, крычалі «Жыве Беларусь». Калі было цёмна, пайшла дадому, бо не магу сабе дазволіць шмат часу быць там. Наранiцу даведалася, што адбылося. На наступны дзень шпацыравалі, бачыла аўтазакі, АМАП, сабак, у некалькіх метрах ад нас бралі чалавека, вельмі жорстка збівалі. Страшна не было – я не бачыла, што адбылося дзявятага. Цяпер было б страшна, а тады яшчэ не ведалі, што трэба баяцца, думалі, што ўсё будзе па законе.

Маргарыта выходзіла на жаночыя акцыі салідарнасці з кветкамі. Упершыню далучылася да ланцуга каля Чырвонага касцёла.

– Ехала з кветкамі, калені крыху дрыжалі. А пасля ўбачыла, колькі там жанчын, іх станавілася ўсё больш, былі з кветкамі, некаторыя з дзецьмі, трымалі плакаты. Пасля пачалі пад'язджаць мужчыны, пачалі частаваць – марожаным, вадой, цукеркамі. Была на ровары, і сабраўся цэлы кошык пачастункаў. Адна дзяўчына аж заплакала, бо ніколі такога не бачыла – незнаёмыя людзі прыязджаюць, усіх частуюць, ва ўсіх такі цудоўны настрой! Якія прыгожыя жанчыны, з кветкамі, гэта незабыўна. Пасля былі маршы, я заўсёды была з кветкамі, каб паказаць, што супраць гвалту.

2 лістапада Маргарыту асудзілі па 23.34 на 15 базавых за ўдзел у маршы.

**– За апошнія месяцы ў Маладзечне звольнілі трох педагогаў пры падобных акалічнасцях. Настаўнікаў з такімі ж поглядамі, што ў вас, нашмат больш. Ці было б добра, каб і іншыя сваю пазіцыю паказвалі праз учынкі?**

– У многіх няма фінансавай падушкі, якая дазволіць паўгода-год быць без грошай. Калі звольняць па палітычных матывах, то ў дзяржаўную ўстанову больш не ўладкуешся. А ў якую прыватную можна ўладкавацца ў Маладзечне? Ёсць такія, што выйшлі і засталіся працаваць. Але фінансавы бок вельмі моцна трымае людзей. У кожнага свая мяжа, якую не можа пераступіць. У некаторых хопіць смеласці ўсё памяняць, у іншых не. Усе хочуць рухацца наперад, а не назад.

### Як адбылося звальненне

– На мяне ніхто ніколі не ціснуў. Але разумела, што кантракт не працягнуць, тым больш я пенсіянерка. Ніколі не хавала сваіх поглядаў. Штогод ідзе сход, на якім адбываецца размеркаванне нагрузкі на наступны навучальны год. Так як у мяне Гануля, не магла быць на гэтым сходзе. Падыходжу да дырэктара, прапанавала абмеркаваць пытанне раней. Дырэктар сказала, што яна не працягне са мной кантракт, што ёй вельмі шкада, і параіла памяняць грамадзянскую пазіцыю. Адказала, што гэта немагчыма, таму што за гэтым стаіць маё сумленне. І мы разышліся.

**– Як змяніўся аўтарытэт настаўніка за 37 год вашага стажу?**

– Не магу казаць пра сістэму, я ў ёй не вельмі моцна завязаная, заўсёды працавала толькі з дзецьмі і не хацела быць вышэй. Аўтарытэт залежыць не ад сістэмы, а ад асобы настаўніка. Нават калі прымушаць шмат працаваць, дзеці нібыта незадаволеныя, але адчуваюць, што табе неабыякава. І заўсёды будуць гэта цаніць. Дзеці цэняць сумленнасць і падтрымку.

**– Ці ёсць людзі, у кім расчараваліся за апошні год?**

– Не. Кожны мае права на свой выбар і сваё меркаванне. Мне можа не падабацца пазіцыя, якую ён абраў. Але ён мае на гэта права.

Маргарыта расказвае, што ў школе не мела сяброў – яны з'явіліся ў 2020 годзе. І што атрымала вельмі шмат падтрымкі ад знаёмых і незнаёмых людзей.

Адна з асноўных частак цяперашняга жыцця Собаль – падтрымка палітзняволеных.

– Гэта дапамагае не ўпасці ў дэпрэсію. Калі проста сядзець, то вельмі цяжка назіраць за тым, што робіцца. А калі дапамагаеш, то значна лягчэй. Учора прыйшоў ліст ад Вольгі Маёравай. Пасылаю пасылкі. Так шмат людзей дапамагае, куды б ні прыйшоў – падказваюць, як лепш, усе дапамагаюць, дадаюць пазітыву. З такім часта сустракаюся. Гэта неймаверна як падбадзёрвае.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2110, 2000 г.в., Т. (8-029) 6024397, (8-029) 3075125.

• Опель-Зафіра, 2001 г.в., 290 000 км, ідэальны стан. Т. (8-029) 7510708.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7555455.*

• Мерсэдэс-123, дызель, можна не на хаду. Т. (8-029) 3702711,(8-029) 7156613.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з балконам агульнай плошчай 30,3 кв. м, 5 паверх, у цэнтры Маладзечна па вуліцы Вялікі Гасцінец, 72-а. Т. (8-029) 7672490.*

• Дача ў в. Узбалаць Валожынскага с/с. Нядорага. Т. МТС (8-029) 7545587.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 76, 2 паверх, 47,5/30,9/6,2. Т. (8-029) 8530568, Юра, (8-029) 8658884, Інэса.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у Маладзечне па вул. Усходняй. Т. (8-029) 8531242.*

• Кватэра ў навабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### ЗДАМ

• Майстэрню для рамонту аўтамабіляў з абсталяваннем, 90 кв.м. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду памяшканне магазіна плошчай 370 кв.м ў Маладзечне па вул. Святаянскай, 75. Ёсць памяшканне для вытворчасці паўфабрыкатаў. Магчымы продаж. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. (8-029) 6278076.*

### НАЙМУ

• Найму альбо куплю дом у Маладзечне ці раёне. Сучасны дом, газ, ацяпленне абавязкова. Т. (8-029) 7036926, Кацярына.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі да 2 т. ІП Ковель М.Б. УНП 690690062 Т. (8-029) 7647716.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Дахавыя работы, устаноўка агароджаў пад ключ, укладка тратуарнай пліткі. ІП Смолка М.В. УНП 691185021. Т. (8-044) 7794566.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт тэлевізараў і антэн. Вілейка і Вілейскі раён. ІП Петрашэвіч А.В. УНП 691182709. Т. (8-029) 5714165 (вайбер).*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водапровад, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 7088846.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Маладзечна, вул. Л.-Роменская, 153-а. ІП Барчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-0176) 580400, (8-029) 2345641.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Кухня, стол кухонны фірмы «Явід», тэлевізійная зона, дзіцячая мэбля, 2-ярусны драўляны ложак з матрацамі. Т. (8-029) 6447250.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двойні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Інвалідная каляска для дарослага. Г. Вілейка. Т. (8-025) 7561796.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, профільную трубу, вугалок, дошку, брус, кроквы. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Работнікі на прысядзібны ўчастак у прыгарадзе Маладзечна. Т. (8-029) 6310734.

• Слесар-кузаўшчык для рамонту аўтамабіля. Майстэрня ёсць. Т. МТС (8-029) 1110707.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*









**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |





# Уступная кампанія на кантролі

**Указам Аляксандра Лукашэнкі ад 20 красавіка №155 «Аб арганізацыі ўступнай кампаніі ва ўстановах адукацыі ў 2021 годзе» стартавала ўступная кампанія ў Беларусі.**

Указ вызначае асноўныя патрабаванні па кантролі за падрыхтоўкай і правядзеннем цэнтралізаванага тэставання, унутраных уступных экзаменаў за прыёмам у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы.

Дакумент зацвярджае склад і палажэнне аб дзяржаўнай камісіі па кантролі за ходам падрыхтоўкі і правядзення ўступных экзаменаў сёлета. Павінны быць роўныя ўмовы пры правядзенні экзаменаў, захаванне правоў і законных інтарэсаў грамадзян пры паступленні і залічэнні.

Распараджэннем старшыні дзяржаўнай камісіі ад 27 мая №9 зацверджаны склад абласной камісіі, якую ўзначаліў старшыня Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці **Валеры Стадольнік**. Таксама зацверджаныя камісіі ўстаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі Мінскай вобласці.

Традыцыйна ўступная кампанія ўключае цэнтралізаванае тэставанне з атрыманнем сертыфікатаў ЦТ, а таксама ўступныя экзамены з падачай дакументаў і залічэннем абітурыентаў.

Пунктамі цэнтралізаванага тэставання ў вобласці вызначаныя філіялы БНТУ «Барысаўскі дзяржаўны політэхнічны каледж», «Салігорскі дзяржаўны горна-хімічны каледж», філіял «Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж» установы адукацыі «Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі». Напярэдадні там правялі адпаведную падрыхтоўчую працу.

Кантроль за правядзеннем уступных экзаменаў будзе праводзіцца ў 21 установе сярэдняй спецыяльнай адукацыі Мінскай вобласці. Асаблівую ўвагу пры правядзенні ўступных экзаменаў нададуць праверцы сапраўднасці дакументаў аб адукацыі і дакументаў, якія даюць права на льготы пры паступленні асобным катэгорыям абітурыентаў.

У кожным пункце тэставання абітурыентам паведамяць пра месцы размяшчэння і час працы камісіі ўстановы, у якую яны могуць звярнуцца ў выпадку парушэння іх правоў і інтарэсаў, у тым ліку да супрацоўніка Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.

У перыяд уступнай кампаніі ў Камітэце дзяржкантролю Мінскай вобласці ў працоўныя дні ад 9:00 да 18:00 і ў дні тэставання, якія прыпадаюць на выхадныя, будзе працаваць «гарачая лінія» па тэлефонах: **(8-017) 397-03-42** і (або) **379-09-06**. Ахвотныя змогуць звярнуцца па гэтых тэлефонах, каб вырашыць пытанні, якія ўзніклі падчас уступнай кампаніі, а таксама выказаць заўвагі.

**Мінская абласная камісія па кантролі за ходам падрыхтоўкі і правядзення ўступных экзаменаў.**

# Што змяняецца ў выкарыстанні касавага абсталявання

**Сёння індывідуальныя прадпрымальнікі, якія гандлююць у розніцу на гандлёвых месцах на рынках, маюць права прымаць наяўныя без выкарыстання касавага абсталявання (КСА ці праграмнай касы).**

Дадзеная норма ўстаноўленая падпунктам 35.4 пункта 35 палажэння аб выкарыстанні касавага і іншага абсталявання пры прыёме сродкаў плацяжу, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 2011 года №924/16 (далей – палажэнне).

Ад 10 красавіка 2021 года ўступіла ў сілу пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 7 красавіка 2021 года №203/4 «Аб змяненні пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 2011 года №924/16» (далей – пастанова 230/4). Гэты дакумент змяняе падпункт 35.4 пункта 35 палажэння.

З улікам унесеных змяненняў індывідуальным прадпрымальнікам ад 10 кастрычніка 2021 года пры гандлі нехарчовымі таварамі на рынках і гандлёвых месцах і прыёме неабходна будзе выкарыстоўваць касавае абсталяванне.

Але ўвядзенне абавязковых касавых апаратаў не цягне абавязковай устаноўкі і выкарыстання на гандлёвых месцах на рынках плацежных тэрміналаў.

Выдаткі суб'ектаў гаспадарання, звязаныя з набыццём касавага абсталявання, могуць быць мінімізаваныя пры набыцці праграмных кас. Бо многія мадэлі праграмных кас размяшчаюцца на электронных прыладах, якія ёсць у прадпрымальнікаў. Гэта планшэты, смартфоны. Выбар праграмных кас дасць магчымасць:

– зэканоміць грошы, патрэбныя на касавыя падсумоўваючыя апараты і тэхабслугоўванне;

– не ўносіць залог за сродак кантролю падатковых органаў, паколькі ў праграмных касах ён не выкарыстоўваецца;

– выкарыстоўваць для праграмнай касы ўжо наяўныя электронныя прылады.

Выкарыстанне праграмных кас, якія ўсталёўваюцца на мабільныя прылады, не патрабуе абавязковай наяўнасці сеткі электрасілкавання і дазваляе іх выкарыстоўваць практычна ў любым месцы.

Таксама партатыўнасць многіх мадэляў касавых падсумоўваючых апаратаў дазваляе іх выкарыстоўваць без сеткі электрасілкавання і выдаваць плацежны дакумент пры продажы тавараў на гандлёвых месцах на рынках.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

# Затрыманні, суткі і суды за супраціўленне

## Што адбылося з удзельнікамі першай леташняй акцыі ў Маладзечне

**19 чэрвеня 2020 года маладзечанцы масава выйшлі на акцыю пратэсту супраць арышту кандыдата ў кандыдаты ў прэзідэнты Віктара Бабарыкі і яго сына Эдуарда. «Рэгіянальная газета» расказвае, што адбылося з удзельнікамі пратэснай акцыі праз год.**



Амапаўцы спрабуюць затрымаць Уладзіслава Еўсцігнеева.

### Акцыя

18 чэрвеня Дэпартамент фінансавых расследаванняў затрымаў кандыдата ў кандыдаты ў прэзідэнты Віктара Бабарыку і яго сына Эдуарда. У той дзень у Мінску адбыліся вялікія акцыі пратэсту, а на наступны дзень людзі выйшлі пратэставаць у Маладзечне.

Пратэстоўцы пачалі збірацца каля галоўнага ўвахода ў парк. Там яны сталі ў ланцуг салідарнасці, аўтамабілісты сігналілі ім у знак падтрымкі. Ля гасцініцы праз гадзіну з'явіўся начальнік Маладзечанскага РАУС **Вадзім Прыгара** і яго намеснік, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Руслан Манькоўскі**.

Інспектары ДАІ перакрылі паласу па Вялікім Гасцінцы каля скрыжавання з вуліцай Багдана Хмяльніцкага. Тады людзі перайшлі ад парку да гэтага скрыжавання. Там яны засталіся яшчэ на некалькі гадзін. У гэты час па пешаходнай дарожцы пачалі хадзіць міліцыянер Маладзечанскага РАУС **Дзмітры Судніковіч** разам з супрацоўнікамі АМАПа.

Каля 22 гадзін двое супрацоўнікаў АМАПа **Яўген Баранаў** і **Вячаслаў Якавенка** пачалі затрымліваць мінака **Міколу Алейніка**. Падчас затрымання Алейніка паміж амапаўцамі і людзьмі, што ўдзельнічалі ў акцыі, адбылася сутычка.

На наступны дзень стала вядома, што Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па факце сутычкі, а прэс-служба МУС пацвердзіла, што адзін з амапаўцаў падчас яе трымаў у руцэ пісталет.

### Мікола Алейнік і Андрэй Багамолаў

Міколу Алейніка затрымалі на трое сутак. Мужчыну судзілі па адміністрацыйным артыкуле за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванне супрацоўнікам органаў унутраных спраў. Алейнік сцвярджаў, што пасля затрымання ў мікрааўтобусе яго збілі і везлі на падлозе аўтамабіля. Таксама Алейнік адзначыў, што амапаўцы схапілі яго і пацягнулі ў машыну, не папярэдзіўшы аб затрыманні і не паказваючы свае службовыя пасведчанні.

Амапаўцы Баранаў і Якавенка сказалі, што перад затрыманнем яны прадставіліся і папрасілі некалькі разоў Алейніка прайсці ў спецтранспарт, а мужчына пачаў уцякаць. Яны засведчылі, што затрыманага маладзечанца перавозілі на крэсле, а не на падлозе, і не збівалі.

Суддзя суда Маладзечанскага раёна **Вольга Дубовік** пастанавіла прызнаць Алейніка вінаватым у парушэнні двух адміністрацыйных артыкулаў. Яму прызначылі пакаранне ў выглядзе 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

**Андрэя Багамолава** затрымалі на заўтрашняй... 

### Павел Пяскоў, Уладзіслаў Еўсцігнееў, Уладзімір Непагода

Паўла Пяскова і Уладзіслава Еўсцігнеева затрымалі па падазрэнні ў супраціўленні супрацоўнікам АМАПа падчас сутычкі на ланцугу салідарнасці. Хлопцаў затрымалі, а пасля адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе.

У верасні 2020 года Пяскова і Еўсцігнеева судзілі ў судзе Маладзечанскага раёне. Іх абвінавачвалі ў супраціўленні амапаўцам. Па справе праходзіў яшчэ адзін мужчына Уладзімір Непагода. Ён знаходзіўся ў вышуку да вясны 2021 года: яго знайшлі ў Санкт-Пецярбургу. Наколькі вядома «Рэгіянальнай газеце», мужчына чакае экстрадыцыі ў Беларусь.

Падчас суда над Пясковым і Еўсцігнеевым стала вядома, што Міколу Алейніка пасля затрымання ўсё-ткі перавозілі на падлозе аўто. Аб гэтым паведамілі супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС, якія знаходзіліся ў транспарце разам з амапаўцамі.

**Пяскова і Еўсцігнеева прызналі вінаватымі ў супраціўленні амапаўцам.**

Паўлу далі тры гады і тры месяцы калоніі, Уладзіславу – тры гады. Абодва абскарджвалі рашэнне маладзечанскага суда ў вышэйшых інстанцыях, аднак прысуд пакінулі без змянення.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Маладзечанцу прысудзілі чатыры гады за абразу Лукашэнкі, Ярмошынай, Карпянкова, трох міліцыянераў

11 чэрвеня маладзечанца **Дзяніса Сырца** пакаралі чатырма гадамі калоніі па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: у распальванні варожасці да супрацоўнікаў міліцыі, у абразе дзяржаўных асоб і прэзідэнта. Яшчэ ён павінны сплаціць кампенсацыі за маральную шкоду.

Пацярпелымі прызнаныя **Аляксандр Лукашэнка**, **Лідзія Ярмошына**, **Мікалай Карпянкоў**, міліцыянеры Маладзечанскага РАУС **Святлана Равяка** і **Станіслаў Вайцяховіч**, супрацоўніца АМАПа УУС Гродзенскага аблвыканкама **Дар'я Бандарчук**. Працэс праходзіў 9 і 10 чэрвеня, 11 чэрвеня вынеслі прысуд.

Сырца абвінавачвалі па каментарах, якія ён пакінуў у маладзечанскім тэлеграм-канале (цяпер ён прызнаны экстрэмісцкім).

Суддзя Мінскага абласнога суда **Тулейка** прызнаў Дзяніса Сырца вінаватым па трох артыкулах і прызначыў яму чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Равяка, Вайцяховіч і Бандарчук заявілі позвы аб кампенсацыі маральнай шкоды па тысячы рублёў кожны, іх суддзя задаволіў.

**Настасся УТКІНА.**

## Маладзечанку асудзілі за абразу суддзі

8 чэрвеня суд Мінскага раёна прысудзіў маладзечанцы паўтара года дамашняй «хіміі» за абразу суддзі, якая раней прысудзіла ёй 20 базавых велічынь штрафу за ўдзел у мітынгу.

Згодна з матэрыяламі справы, 22-гадовая абвінавачаная мела намер на публічную абразу суддзі ў сувязі з ажыццяўленнем правасуддзя. 29 верасня 2020 года жанчына размясціла ў тэлеграм-чаце каментар абразлівага характару з выкарыстаннем ненарматыўнай лексікі.

**Абвінавачаная цалкам прызнала віну.**

Жанчыне прысудзілі адзін год і шэсць месяцаў без накіравання ў папраўчую калонію (дамашняя «хімія»).

Абвінавачанай з'яўляецца **Кацярына Гамолка**, а пацярпелай – суддзя суда Маладзечанскага раёна **Вікторыя Паляшчук**.

**Настасся УТКІНА.**

## Беларусь 1

**6.05, 21.55** Х/ф **«УТРАЧЕННЫЕ ВОСПОМИНАНИЯ».**
**8.00** Існасць [СТ].
**8.30** Смысл жизни.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».
**9.55** Здоровье. [СТ].
**10.45** Дача.
**11.20** «Повод есть».
**12.10** Х/ф **«ОТПУСК В СОСНОВОМ ЛЕСУ».**
**14.15** Женщины и спорт.
**15.10** Краіна.
**15.40** Истории спасения.
**16.15, 19.25** Х/ф **«СЛИШКОМ КРАСИВАЯ ЖЕНА».**
**19.00** «Вопрос номер один».
**21.00** Панорама.
**21.40** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**
**2.00** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 18.10** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**10.00** Анимация для всей семьи «Тайна Коко».
**11.35** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.35** «Камень, ножницы, бумага».
**13.15** «На неделю».
**14.05** Х/ф **«ОХОТА НА ДИКАРЕЙ».**
**16.00** Х/ф **«ГОЛ!».**
**18.15** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**20.10, 21.15** Х/ф **«СПАСТИ МИСТЕРА БЭНКСА».**
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**22.55** Х/ф **«ЖАЖДА СКОРОСТИ».**

## Беларусь 3

**7.25** «Каникулы в Простоквашино». Мультфільм.
**7.45** «Сіла веры».
**8.10, 14.35** Навіны культуры.
**8.30** «Дзяўчына з гітарай». Мастацкі фільм СТ.
**10.00** «Жывая спадчына».
**10.25** «Беларуская кухня». Перапечкі і чукуляда.
**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.25** «Рыжы, сумленны, закаханы». Мастацкі фільм СТ.
**13.55** «Архітэктура Беларусі» СТ.
**14.10** «Навукаманія».
**14.55** «Метафізіка кіно». Кінарэжысёр Валерый Рыбараў.
**15.35** «Напярэдадні Пераможнай Вясны». Канцэрт Тамары Гвердцытэлі «Сіняя хустачка».
**16.30** «Увага, гаворыць Масква!» Мастацкі фільм.
**19.40** «Рэха вайны». Канцэрт Сімфанічнага аркестра Белтэлерадыёкампаніі.
**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госця – намеснік дырэктара выдавецтва «Чатыры Чвэрці» Жанна Клімянок.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Вас чакае грамадзянка Ніканорава». Мастацкі фільм.
**22.30** «Класіка сусветнага кіно». Фільм Федэрыка Феліні «Джульета і духі».
**22.40** «Джульета і духі». Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».
**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».
**10.25** К 80-летию Валерия Золотухина. «Я Вас любил…».
**11.25** «Видели видео?».
**13.30** «Остров Крым».
**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**17.55** «Сегодня вечером».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** «Сегодня вечером» Продолжение.
**22.00** Т/с **«ПОРТРЕТ ЛЮБИМОГО».**

## СТВ

**6.35, 23.10** Т/с **«ТУРИСТЫ».**
**8.10** «Анфас».
**8.30** «Самая полезная программа».
**9.30** «О вкусной и здоровой пище».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.05** Кино: «БРЕСТСКАЯ КРЕПОСТЬ». Беларусь-Россия, 2010г.
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**13.40** Документальный проект.
**14.20, 16.40** Т/с **«ИНСТРУКТОР».**
**20.20** «СТВ-спорт».
**20.30** Документальный спецпроект.
**22.05** «Территория заблуждений».
**0.40** Т/с **«НЕВОЗМОЖНЫЕ ЗЕЛЕНЫЕ ГЛАЗА».**

## Мир

**5.00** Т/с **«ПЯТЬ НЕВЕСТ».**
**6.00** «Всё, как у людей».
**6.15, 3.35** Мультфильмы.
**6.30** Х/ф **«ЕДИНСТВЕННАЯ».**
**8.25** «Любимые актеры». К юбилею В. Золотухина.
**9.00** «Слабое звено».
**10.00** Погода в Мире.
**10.10** Т/с **«Д'АРТАНЬЯН И ТРИ МУШКЕТЕРА».**
**15.35, 16.15, 19.15** Т/с **«ПРИ ЗАГАДОЧНЫХ ОБСТОЯТЕЛЬСТВАХ».**
**16.00, 19.00** Новости.
**0.30** Х/ф **«ГАРАЖ».**
**2.10** Х/ф **«СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».**
**4.50** Х/ф **«Я ШАГАЮ ПО МОСКВЕ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05, 6.55** Сегодня. Главное.
**6.20** «Дача».
**7.10** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** Один день.
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Сломать стереотипы.
**10.40** Белорусская супер-женщина.
**10.45** Главная дорога.
**11.20** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**12.10** Квартирный вопрос.
**13.05** Истории спасения.
**13.35** «Поедем, поедим!».
**14.15** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**
**15.25, 16.20** «Следствие вели…».
**17.10** «Секрет на миллион».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**19.55** «Ты не поверишь!».
**21.00** Т/с **«ПОТЕРЯННЫЕ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».
**9.30** «Специальный репортаж».
**9.50** «Тайны Беларуси».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.25** «СДЕЛАНО». Документальный проект.
**12.00** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.05** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.10** Х/ф **«ПЕТРОВИЧ».**
**16.10** Х/ф **«ДВА ИВАНА».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«КРАСАВИЦА И ЧУДОВИЩЕ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**5.50** Инопланетное вторжение: Битва за Лос-Анджелес. **8.15** Миссия «Серенити». **10.15** Новый человек-паук. **12.40** Новый Человек-паук: Высокое напряжение. **15.05** Зелёный Шершень. **17.10, 2.05** Джуманджи. **19.00** Затура: Космическое приключение. **20.45** Клик: с пультом по жизни. **22.35** Управление гневом. **0.15** Ранго. **3.45** Волшебная страна.

### TV1000 ACTION

**5.10** Хеллбой. **7.35** Район №9. **9.35** Хранители. **12.20, 1.00** Человек-паук. **14.25, 2.55** Человек-паук 2. **16.35** Человек-Паук 3. **19.00** Чёрная дыра. **20.45** Хроники Риддика. **22.55** Риддик.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.25** Любовь с ограничениями. **7.10** Призрак. **9.00** Девушки бывают разные. **10.30** Антикиллер. **12.30** Метро. **14.50** Ледокол. **17.00, 0.05** Ночные стражи. **18.45** Тёмный мир. **20.30** Тёмный мир: Равновесие. **22.10** Эбигейл. **1.40** Завод. **3.25** Спарта.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.30, 10.00, 10.30, 11.00, 11.30, 12.00, 12.45** Скрипт-реалити. «Старец». **13.15** Х/ф **«МОСТ В ТЕРАБИТИЮ». 15.15** Х/ф **«ВОИНЫ СВЕТА». 17.15** Х/ф **«ЭФФЕКТ ЛАЗАРЯ». 19.00** Х/ф **«ОРУДИЯ СМЕРТИ: ГОРОД КОСТЕЙ». 21.45** Х/ф **«ДЕВЯТЫЕ ВРАТА». 0.30** Х/ф **«ОТ КОЛЫБЕЛИ ДО МОГИЛЫ». 2.15** Х/ф **«РОБИН ГУД, ИЛИ МЛАДЕНЕЦ НА 30 МЛН. $». 4.15, 5.00** «Мистические истории».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«БИТВЫ БОЖЬИХ КОРОВОК». 12.00, 20.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕВИЧНИК». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ОЛЯ + КОЛЯ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ПОБЕДНЫЙ ВЕТЕР, ЯСНЫЙ ДЕНЬ». 4.00** Т/с **«ПРИМАДОННА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.05** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА». 3.50** Х/ф **«БРАТЬЯ СИСТЕРС». 6.00** Х/ф **«КРУТОЙ И ЦЫПОЧКИ». 7.50** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВЫЙ ПОЛИЦЕЙСКИЙ». 9.40** Х/ф **«НОЧНАЯ ЖИЗНЬ». 11.50** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ». 13.40** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ». 15.50** Х/ф **«ВЫКРУТАСЫ». 17.40** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». 19.30** Х/ф **«ВАСАБИ». 21.15** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ В АМЕРИКЕ». 22.50** Х/ф **«ПАПАШИ БЕЗ ВРЕДНЫХ ПРИВЫЧЕК».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.20, 2.30, 3.40, 22.25, 23.25** Маммон. **4.50, 5.45, 6.40, 7.40, 8.35, 9.25, 10.25, 11.20** Чисто английские убийства. **12.15** Аферисты Дик и Джейн. **13.55, 15.55, 17.05, 18.10, 19.10, 20.15, 21.20** Фарца.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 2.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00, 14.30, 16.00, 17.30, 19.00, 20.30** Т/с **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ». 22.00** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ». 0.00** Х/ф **«ВЛЮБЛЕННЫЕ». 2.50** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.45** Пляжный волейбол. Континентальный кубок. **7.40, 20.55** Пляжный футбол. Квалификация к ЧМ-2021. **8.45** Большой спорт. **9.30** Легкая атлетика. Чемпионат Беларуси. **14.40** Теннис. WTA. Истборн. Финал. **16.30** Пляжный волейбол. Континентальный кубок. Женщины. Финал. Первый матч. **17.30** Пляжный волейбол. Континентальный кубок. Женщины. Финал. Второй матч. **18.35** Спорт-центр. **18.45** Футбол. Чемпионат Европы. 1/8 финала. **21.55** Футбол. Чемпионат Европы. 1/8 финала. В перерыве Спорт-центр. **0.05** Баскетбол. Чемпионат Европы. Женщины. 1/2 финала.

### EUROSPORT

**0.30** Настольный теннис. Чемпионат Европы. Варшава. Микст. Финал. **1.30** Велоспорт. Чемпионат Франции. Женщины. Групповая гонка. **2.30, 7.30** Автогонки. World Endurance. Портимау. **4.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2020. 20-й этап. **6.00** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. 1/2 финала. **8.45** Велоспорт. The Cycling show. **9.15** Велоспорт. La Course by Le Tour de France. Женщины. Прямая трансляция. **12.45** Велоспорт. «Тур де Франс». Мужчины. Первый этап. Прямая трансляция. **18.30** Велоспорт. La Course by Le Tour de France. Женщины. **20.15** Конный спорт. Global Champions Tour. Париж. Конкур. Прямая трансляция. **22.30** Велоспорт. «Тур де Франс». Мужчины. Первый этап. **23.30** Настольный теннис. Чемпионат Европы. Варшава. Мужчины. 1/4 финала.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто. Вторые руки. **6.30, 9.20, 12.25, 14.55, 17.55, 21.35, 0.00, 3.00** Итоговые новости. **6.45, 7.30, 18.15, 1.15, 3.15** Супергрузовики. **8.20, 4.30** Это Родина твоя. **8.50, 10.15** Возвращение легенды. **9.40** Испытание на прочность. **10.45** Комплектация. **11.15** Все включено. **11.50, 19.30, 22.50** Всё о мото. **12.45, 13.00, 20.00, 20.25, 23.25, 23.45** Тест с дядей Ваней. **13.20, 0.20** Байки про байки. **14.00, 1.00** Мото тест-драйв. **14.20, 2.00** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **15.10, 2.30** Тест на «Драйве». **15.45, 20.45** Теория полного привода. **16.20** Кругосветка по бездорожью. **16.50, 21.50, 5.20** Советы юриста. **17.40, 22.35, 5.15** Наезд! **19.05** Проверка на дороге. **21.20** Эконом-тест. Эксклюзив. **4.00** Сити тестер. **5.00** Эконом-тест.

### EXPLORE

**6.10** Гараж: Последний приют. **6.35, 7.25, 8.15** Переделка старья. **9.05, 9.50, 10.40, 11.30, 12.25, 13.15, 14.00** Ржавые тачки на прокачку. **14.50, 15.40, 16.25, 17.10, 0.30, 1.15, 2.05, 2.50, 3.35, 4.25, 5.10** Австралийские золотоискатели. **18.00, 22.00, 22.50** Речные чудовища. **18.50** Винтажные электромобили. **19.35** Строительство гигантов. **20.25** Железная дорога во льдах. **21.15** Бирюзовая лихорадка. **23.40** Ледовые викинги.

### HISTORY

**6.00** Невероятные изобретения. **6.25, 7.10, 8.00** Тайны музеев. **8.45** Очень странные экспонаты. **9.35, 10.20, 11.05, 13.40, 1.35, 2.20** Расшифровка тайн. **11.50, 12.45** Последние часы Помпеев: новые загадки. **14.25** Ганнибал: новые данные. **15.15, 16.00, 3.05, 3.45** Музейные тайны. **16.40, 17.30** Мифические существа. **18.20** Забытая армия викингов. **19.10** Вечные Помпеи. **20.10** Салемские ведьмы. **21.00** Ватикан – вечный город наместников божьих. **21.55** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **22.45** Операция «Золотая лихорадка». **23.40, 0.35** Осада Мальты: воины Господа. **4.30** Помпеи: после извержения.

### NATURE

**6.10, 4.05, 4.35** Постыдные проблемы питомцев. **6.35, 7.20, 8.10, 8.55, 9.40, 10.30, 11.15, 12.00, 19.00, 19.45, 20.35** Ветеринар из Йоркшира. **12.45, 13.45** Раскопки на полюсах. **14.40** Вскрытие мамонта. **15.30, 16.25** Дикая Новая Зеландия. **17.20, 18.10** Спасти акулу! **21.20** Необъяснимая Земля. **22.15, 23.00, 0.35** Мутации погоды. **23.45** Невероятные встречи с животными. **1.20** Выживание в дикой природе. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.15** Спасение диких медведей. **3.40** Уличный ветеринар. **5.00** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 10.50, 11.40, 12.30, 13.20** Злоключения за границей: Преступление и наказание. **6.45, 7.35, 9.15, 10.05** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **8.25** Международный аэропорт Дубай. **14.15, 15.05, 15.55, 21.50** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **16.45, 17.35, 18.25, 19.15, 20.05, 21.00** Злоключения за границей 13. **22.40, 23.30** Расследование авиакатастроф: Специальный выпуск 4. **0.15** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **1.05, 1.50, 2.35, 3.25, 4.10, 4.55** Злоключения за границей. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.10, 13.10, 14.00, 15.00, 16.05, 16.55, 18.00, 19.05, 20.05, 21.10, 22.15, 23.00, 0.05, 1.05, 2.05, 3.00, 4.00, 5.00** Безграничная рыбалка. **6.30, 7.25, 8.35, 9.35, 10.35, 11.35, 12.40, 13.40, 14.30, 15.30, 16.40, 17.30, 18.30, 19.35, 20.35, 21.40, 23.30, 0.35, 1.35, 2.35, 3.30, 4.35, 5.30** Дело вкуса. **6.45, 7.40, 8.45, 9.50, 10.45, 11.50, 12.55, 14.45, 15.50, 17.40, 18.45, 19.50, 20.50, 22.00, 22.45, 23.50, 0.50, 1.50, 2.50, 3.45, 4.45, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30 6.30 6.30, 10.25 10.25 10.25, 14.25 14.25 14.25, 18.30 18.30 18.30, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 22.50** Кашеварим. **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.30, 19.35, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Варенье. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Безопасность. **14.45, 18.45, 3.05** Какая дичь! **2.05** Не просто суп!

## Беларусь 1

**6.00** Х/ф **«УТРАЧЕННЫЕ ВОСПОМИНАНИЯ».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ОТПУСК В СОСНОВОМ ЛЕСУ».**

**14.30** Один день.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** «Повод есть».

**16.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**16.45, 19.10** Х/ф **«КОМПАНЬОНКА».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.30** Х/ф **«СЛИШКОМ КРАСИВАЯ ЖЕНА».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**10.50** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**11.45** Х/ф **«ГОЛ!».**

**13.55** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.50** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.50** Приключенческая фантастика «Ведьмина гора».

**20.15** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.20** Х/ф **«ОХОТА НА ДИКАРЕЙ».**

**23.20** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.10** «Царевна-лягушка». Мультфільм.

**7.50** «Святыні Беларусі».

**8.15, 15.20** Навіны культуры.

**8.35** «Вас чакае грамадзянка Нíканорава». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Крэпка каша.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Народны майстар». Яніна Мікульчык (ткацтва паясоў).

**12.15** «Увага, гаворыць Масква!» Мастацкі фільм.

**15.40** Эдвард Грыг. «Пэр Гюнт». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**17.15** «Архітэктура Беларусі» СТ.

**17.30** «Сонца свеціць усім». Канцэрт маладых выканаўцаў і зорак беларускай эстрады.

**18.30** «Кадры жыцця». Акцёр тэатра і кіно Уладзімір Варанкоў.

**19.25** «Блакітны карбункул». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Дзяўчына з гітарай». Мастацкі фільм СТ.

**22.35** Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2021». Урачыстае адкрыццё.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** Х/ф **«СВАДЬБА В МАЛИНОВКЕ».**

**11.15** «Видели видео?».

**12.10** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС». «МАРГАРИТА НАЗАРОВА. ЖЕНЩИНА В КЛЕТКЕ».**

**13.10** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**

**14.50** «Левчик и Вовчик».

**16.45** «Левчик и Вовчик» Продолжение.

**18.20** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** «Что? Где? Когда?». Летняя серия игр.

**22.45** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.05** Премьера. Группа «Кино» – 2021.

**0.30** «Цой – «Кино».

## СТВ

**6.50, 23.30** Т/с **«ТУРИСТЫ».**

**8.25, 13.40** Документальный проект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** «Великие тайны».

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**14.20, 16.40** Т/с **«ИНСТРУКТОР».**

**19.30** «Неделя».

**21.05** Документальный спецпроект.

**21.50** «Засекреченные списки».

**1.00** «Секреты древних красавиц».

## Мир

**5.00, 3.30** Х/ф **«Я ШАГАЮ ПО МОСКВЕ».**

**6.05** Х/ф **«ВИЙ».**

**7.35** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15, 16.15** Т/с **«ЗАПИСКИ ЭКСПЕДИТОРА ТАЙНОЙ КАНЦЕЛЯРИИ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**19.30, 1.00** Т/с **«Д'АРТАНЬЯН И ТРИ МУШКЕТЕРА».**

**1.55** Х/ф **«МИМИНО».**

**4.45** Мультфильмы.

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.50** «Первая передача».

**11.20** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**15.25, 16.20** «Следствие вели…».

**17.55** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**22.05** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«КРАСАВИЦА И ЧУДОВИЩЕ».**

**10.40** Х/ф **«ПЕТРОВИЧ».**

**12.40** Х/ф **«ЛЮБВИ ЦЕЛИТЕЛЬНАЯ СИЛА».**

**14.40** ПРЕМЬЕРА. «Аншлаг и Компания».

**16.30** Х/ф **«МЕСТЬ КАК ЛЕКАРСТВО».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** Х/ф **«КУДА УХОДИТ ЛЮБОВЬ».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**5.25, 0.45** Эмма. **7.45** Ранго. **9.40** Джуманджи. **11.30** Управление гневом. **13.15** Клик: с пультом по жизни. **15.05** Затура: Космическое приключение. **16.55** Как отделаться от парня за 10 дней. **19.00** Голая правда. **20.40** Правила съёма: Метод Хитча. **22.45** В погоне за счастьем. **2.50** Гордость и предубеждение.

### TV1000 ACTION

**5.10** Человек-Паук 3. **7.50** Патруль времени. **9.30** Пророк. **11.05** Чёрная дыра. **12.55** Хроники Риддика. **15.05** Риддик. **17.05** Наёмник. **19.00** Чистая кожа. **20.50** Отель Мумбаи: Противостояние. **22.55** Чёрные воды. **0.45** Избави нас от лукавого. **3.05** Чужой против Хищника.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.00, 2.30** Каменная башка. **6.45** Девушки бывают разные. **8.30** Мой парень – Ангел. **10.10** Эбигейл. **12.05** Ночные стражи. **13.55** Тёмный мир. **15.40** Тёмный мир: Равновесие. **17.20, 4.00** Обитаемый остров. **19.25** Обитаемый остров: Схватка. **21.15** Спутник. **23.05** Люби их всех. **0.50** Русский рейд.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.45** «Новый день». **9.30, 10.00, 10.30, 11.00** Скрипт-реалити. «Слепая». **11.45** Х/ф **«ИСТОРИЯ ОДНОГО ВАМПИРА». 14.00** Х/ф **«ОРУДИЯ СМЕРТИ: ГОРОД КОСТЕЙ». 16.45** Х/ф **«КОМАТОЗНИКИ». 19.00** Х/ф **«ТРЕУГОЛЬНИК». 21.00** Х/ф **«30 ДНЕЙ НОЧИ». 23.15** Х/ф **«ЭФФЕКТ ЛАЗАРЯ». 1.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЕ ЧАСЫ ЗЕМЛИ». 2.30, 3.15, 4.00, 4.45, 5.30** Т/с **«БАШНЯ. НОВЫЕ ЛЮДИ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПОБЕДНЫЙ ВЕТЕР, ЯСНЫЙ ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕВИЧНИК». 14.00, 22.00** Т/с **«ОЛЯ + КОЛЯ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК». 6.00** Т/с **«АННА ГЕРМАН».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.45** Х/ф **«ПРИМАДОННА». 3.30** Х/ф **«НОВЕЙШИЙ ЗАВЕТ». 5.30** Х/ф **«АЛОХА». 7.30** Х/ф **«КАК ОТМЫТЬ МИЛЛИОН». 9.50** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА». 11.50** Х/ф **«К ЧЕРТУ ЛЮБОВЬ». 13.40** Х/ф **«ИСТОРИЯ О НАС». 15.30** Х/ф **«КЕЙТ И ЛЕО». 17.40** Х/ф **«ЧЁРНЫЙ РЫЦАРЬ». 19.30** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ». 21.20** Х/ф **«SUPERАЛИБИ». 23.05** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.25, 2.25, 3.25** Маммон. **4.15, 5.15, 6.10, 7.00, 8.00, 8.55, 22.00, 22.50, 23.50** Чисто английские убийства. **9.55, 10.45, 11.35, 12.30, 13.20, 14.10, 15.00, 15.55, 16.50, 17.40, 18.30, 19.20, 20.15, 21.05** Ликвидация.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.40** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 15.05** Т/с **«СТОРИЗ». 17.10** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ». 19.10** Х/ф **«ДРУЖБА И НИКАКОГО СЕКСА?». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.05, 1.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **0.15** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **2.10** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.30** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30** Спортивная гимнастика. Кубок мира. Доха. **8.35, 9.40** Пляжный волейбол. Континентальный кубок. **10.45** Игры «на вырост». **11.15** Пит-стоп. **11.50** Теннис. WTA. Бад-Хомбург. Финал. **13.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. Финал. Четвертый матч. **15.50, 18.40** Спорт-центр. **17.50** Вот это спорт! **18.05** Футбол. На пути к ЧМ-2022. **18.50** Футбол. Чемпионат Европы. 1/8 финала. **21.00** Итоги недели. **21.45** Футбол. Чемпионат Европы. 1/8 финала. В перерыве Спорт-центр. **23.55** Футбол. Чемпионат Европы. Дневник. **0.30** Пляжный футбол. Квалификация к ЧМ-2021.

### EUROSPORT

**0.30** Настольный теннис. Чемпионат Европы. Варшава. Мужчины. 1/4 финала. **1.30, 4.00, 11.00** Велоспорт. «Тур де Франс». Мужчины. Первый этап. **2.30, 7.30** Автогонки. Туринг. Нюрбургринг. Первая гонка. **3.15, 8.30** Автогонки. Туринг. Нюрбургринг. Вторая гонка. **6.00** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Финал. **9.30** Конный спорт. Global Champions Tour. Париж. Конкур. **13.15** Автогонки. Суперкубок Porsche. Австрия. Интро. Прямая трансляция. **13.25** Автогонки. Суперкубок Porsche. Австрия. Гонка. Прямая трансляция. **14.15** Велоспорт. «Тур де Франс». Мужчины. Второй этап. Прямая трансляция. **18.55** Автогонки. Туринг. Эшторил. Первая гонка. **19.45** Автогонки. Туринг. Эшторил. Вторая гонка. **20.30** Автогонки. Суперкубок Porsche. Австрия. Гонка. **21.05** Велоспорт. La Course by Le Tour de France. Женщины. **22.00** Велоспорт. «Тур де Франс». Мужчины. Второй этап. **23.30** Настольный теннис. Чемпионат Европы. Варшава. Женщины. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто. Вторые руки. **6.30, 17.50, 1.15** Супергрузовики. **7.15, 19.00, 3.20** Это Родина твоя. **7.40, 8.20, 3.50, 4.45** Проверка на дороге. **8.00, 10.15, 13.15, 16.30, 18.40, 23.25, 2.00, 4.05** Итоговые новости. **8.35, 10.35** Возвращение легенды. **9.10** Испытание на прочность. **9.40** Всё включено. **9.55** Все включено. Эксклюзив р. **11.05** Автолайф. **11.25, 19.30, 22.50** Всё о мото. **11.55, 12.20, 20.05, 20.25, 23.40, 0.00** Тест с дядей Ваней. **12.40, 0.20** Байки про байки. **13.35, 1.00** Мото тест-драйв. **13.50, 2.20, 2.50** Тест на «Драйве». **14.30** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **15.05, 4.15** Сити-тестер. Эксклюзив. **15.35, 5.00** Эконом-тест. Эксклюзив. **15.55, 20.40** Теория полного привода. **16.45, 21.45, 5.20** Советы юриста. **17.35** Авто: вторые руки. **21.15** Кругосветка по бездорожью. **22.30, 5.15** Наезд!

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.25, 10.20** Речные чудовища. **11.10** Винтажные электромобили. **12.00** Железная дорога во льдах. **12.50, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.55, 20.40, 21.30, 22.15** Австралийские золотоискатели. **23.05** Бирюзовая лихорадка. **23.50** Снос в Австралии. **0.40, 1.25, 2.15, 3.00, 3.45, 4.35, 5.20** Ледовые викинги. **5.55** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.15** Невероятные изобретения. **6.45, 7.30, 9.00, 9.45, 14.45, 1.25, 2.10** Расшифровка тайн. **8.15** Очень странные экспонаты. **10.30** Тайна Копья Судьбы. **11.30, 12.10, 2.55, 3.40, 4.20** Музейные тайны. **12.55, 13.50** Последние часы Помпеев: новые загадки. **15.30** Ганнибал: новые данные. **16.20** Ватикан – вечный город наместников божьих. **17.15** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **18.05, 19.05, 20.00** Древние небеса. **21.00** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **21.50** Загадка троянского коня. **22.55** Загадка костей: гендерная революция. **23.50, 0.40** Лондон: 2000 лет истории. **5.05** Живые мертвецы Помпеев.

### NATURE

**6.05, 6.55** Спасти акулу! **7.40, 8.35** Дикая Новая Зеландия. **9.30** Вскрытие мамонта. **10.20, 11.20** Раскопки на полюсах. **12.15, 13.10, 14.05** Дикая Бразилия. **15.00** Больница для слонов. **15.50, 16.40, 17.30** Великие миграции в природе. **18.20** Мадагаскар, африканский Галапагос. **19.15, 20.10, 21.00, 21.50, 22.45** Речные чудовища. **23.35** Невероятные встречи с животными. **0.25** Мутации погоды. **1.10** Выживание в дикой природе. **2.00** В зоопарке Таронга. **3.05** Спасение диких медведей. **3.30** Уличный ветеринар. **3.55, 4.25, 4.50** Постыдные проблемы питомцев. **5.15** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.20, 7.05, 8.50** Короли рыбалки. **8.00** Международный аэропорт Дубай. **9.40, 10.30** Техасский улов. **11.20, 12.15, 13.05, 14.00, 14.50** Дикий тунец. **15.45, 16.35, 17.30** Рыбы-чудовища. **18.25, 19.15, 20.05** Дикий тунец: Север против Юга 6. **21.00** Служба безопасности аэропорта: Рим. **21.50, 22.50** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **23.40, 0.25** Тайвань-остров рыбы. **1.05, 3.30** Авто – SOS 8. **1.55, 2.40** Осушить океан 3. **4.15, 5.05** Антарктика.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00, 13.55, 18.00, 2.05** Охота и рыбалка в. **6.30, 14.25, 18.30, 2.35** Егерский кордон. **7.00, 10.50, 14.55, 19.00, 23.10, 3.05** Нахлыст без границ. **7.25, 11.20, 15.25, 19.30, 23.40, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 11.50, 15.55, 20.00, 0.10, 4.05** Рыболовные путешествия. **8.30, 12.20, 16.25, 20.30, 4.35** Мир охотника. **9.00, 12.50, 16.55, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.30, 17.30, 5.35** Рыбалка сегодня XL. **10.30** Охотничье оружие. Вопросы эксперту. **13.25, 21.35, 1.40** Рыбалка 360. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Ружейная охота. Первые шаги. **22.35** Сам себе охотник. **0.40** Рыболовная школа для взрослых.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30 6.30 6.30, 10.25 10.25 10.25, 14.25 14.25 14.25, 18.30 18.30 18.30, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Какая дичь! **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.30, 19.35, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Варенье. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Безопасность. **10.45** Кашеварим. **2.05** Не просто суп!

# Што вядома пра гісторыю вілейскай пошты

*Заканчэнне. Пачатак у №№23, 24.*

**ВІЛЕЙКА**

**Сёння заканчваем расказваць пра гісторыю Вілейскай пошты.**




Фота з часопіса Żołnierz Polski ў №28 за 1928 год. На заднім плане будуецца пошта ў Вілейцы.

І вяртаючыся да публікацыі ў №23, зноў спрабуем адказаць на пытанне: калі ж з'явіўся будынак пошты, што адлюстраваны на першым здымку (№23), каля помніка Пілсудскаму? Вядома, што з'явіўся будынак у другой палове 1920-х.

З 1921 года Вілейка афіцыйна ўвайшла ў склад II Рэчы Паспалітай і стала цэнтрам Вілейскага павета, спачатку ў Навагрудскім, а потым у Віленскім ваяводстве.

**У 1925 годзе ўрад выдаў распараджэнне аб пашырэнні тэлефоннай сеткі ў Польшчы і асабліва ва ўсходніх (новых) ваяводствах. Для размяшчэння апаратуры спатрэбіўся новы будынак.**

Будынак каля касцёла, пра які мы пісалі ў мінулых нумарах, знік у 1924 годзе. А ў старой паштова-тэлеграфнай канторы, мабыць, нельга было размясціць новую апаратуру. Вырашылі будаваць новую пошту. На фота з часопіса Żołnierz Polski ў №28 за 1928 год бачым пачатковы этап будаўніцтва. Але фота зроблена, магчыма, раней, у 1926-м. Менавіта тады ў Вілейцы праходзіла свята арганізацыі Przysposobienie Wojskowe, пра што пісала выданне Kurjer Poranny ў верасні 1926-га, №250. Бо на наступным здымку, датаваным 1927 годам, будынак паўстае ў больш высокай стадыі гатоўнасці.

Ёсць яшчэ адзін здымак, на якім будынак пошты ўжо ў 1930-я. Сюды трапіў і помнік Пілсудскаму, але яшчэ без бюста маршала, які быў усталяваны на вяршыні стэлы ў 1938-м. Значыць, фота зроблена паміж 1930 і 1938 гадамі.

Першыя звесткі пра тэлефон у Вілейцы сустракаюцца ў адраснай кнізе Віленскага ваяводства за 1928 год. Там адзначана, што ў горадзе ёсць пошта, тэлеграф і тэлефон. У тэлефонным даведніку Віленскага ваяводства за 1939 год пазначана больш за 80 тэлефонных нумароў у Вілейцы.

**Савецкая ўлада, што прыйшла ў Вілейку ў верасні 1939 года, працягвае выкарыстоўваць і будынак пошты, і тэлефонную сетку, што засталася ад Польшчы.**

У справаздачы аб гарадской інфраструктуры на пачатак 1940 года гаворыцца, што ў горадзе існуе тэлефонная сетка на 100 абанентаў. Але ў тым 1940-м планавалі рэканструкцыю сеткі, пра што сведчыць дакумент, змешчаны ў кнізе «Памяць». Гэта пацвярджаецца і ў артыкуле пра гісторыю Вілейскага раённага вузла электрасувязі: «...у 1940 годзе прыбылі маскоўскія спецыялісты і ўсталявалі камутатары на 300 нумароў...».

Падчас нямецкай акупацыі горада ў 1941-44 гадах немцы таксама выкарыстоўваюць гэты будынак у якасці пошты. Але падчас вызвалення горада ў 1944-м будынак пошты знішчылі, як і 80 працэнтаў пабудоў у горадзе.

Пасля вызвалення Вілейкі ў 1944 годзе пад пошту быў выдзелены двухпавярховы драўляны будынак на скрыжаванні вуліц Маркава і Горкага. Нядаўна там пабудаваны крама гандлёвай сеткі «Санта». Пазней тут месцілася дзіцячая музычная школа. А тады ад 1944 да 1954 працавалі пошта і раённы вузел сувязі.

У 1954 годзе пошта і Вілейскі раённы вузел электрасувязі пераехалі ў аднаўлены будынак на вуліцы Савецкай, што каля мастка праз рэчку Пляснянку.

**Гэты дом і цяпер з'яўляецца адміністрацыйным будынкам Вілейскага вузла электрасувязі «Белтэлекам».**

У 1976 годзе ў Вілейцы пабудавалі новую пошту на вуліцы 17 Верасня (скрыжаванне з вуліцай 1 Мая). Магчыма, яна з'явілася якраз на месцы гістарычнай пошты канца 19 – пачатку 20 стагоддзяў.

**Сёння ў горадзе працуюць тры аддзяленні паштовай сувязі: на Талстога, 55; Дабравольскай, 2; 17 Верасня, 30.**

Аўтар выказвае вялікую ўдзячнасць супрацоўнікам Вілейскага краязнаўчага музея за дапамогу ў зборы матэрыялаў для напісання дадзенага артыкула. А таксама ўдзячны **Дзяніcу Канецкаму** за прапанаваныя фотаздымкі.

**Зміцер ХАЦЕНЧЫК, Вілейка.**
**Фота забяспечаныя аўтарам.**



**WILEJKA** N

30 Straż Pożarna, pl. Ś-to Jerski 6

AUTOMAT TELEFONICZNY:
Dworzec kolejowy

74 Balicki Szymon, adw., D-ra Orłowskiego 1
46 Bank Ludowy Żydowski, D-ra Orłowskiego 13
22 Czochańska Eugenia, dr med., Piłsudskiego 4
72 Dinersztejn Nison, 3 Maja 15
71 Dokurno Kazimierz, wicestarosta, m.
25 Dubin Salomon, przeds. bud., D-ra Orłowskiego 9
— (dod.) tartak i młyn parowy
41 Ejdelman Szaja, tartak i młyn, Chołopowska 78
50 Flekser, wł. drukarni, Piłsudskiego 69
23 Gurwicz Szloma, kupiec leśny, 11 Listopada 12
57 ,,Guzohan", Sp. z o. o. w likwidacji, Lubań, p-ta Kurzeniec
2 Henszel Władysław, starosta, m.
47 Hranicki Józef, Mickiewicza 42
73 Kapłan Lejzer, wł. smolarni, Piłsudskiego 65
77 Karasiński Olgierd, kier. pow. Zarządu Drogowego, Dr Orłowskiego 17
37 Karczmer Callel, wł. hotelu ,,Europa", Raczkiewicza 23
42 Kiewesz Salomon, Piłsudskiego 21
44 Klub Ogn. Polsk., dyżurka i mieszk. kelnerki
1 Lipszyc Izaak, kupiec, Piłsudskiego 17
43 Łando Nachman, 11 Listopada 5
36 Maciejewska Helena, dyr. szpitala państw., Żwirki 13
27 Małyszkiewicz Ajzik, Raczkiewicza 12
54 Myśliński Jan, maj. Teklinopol
56 Ośrodek Zdrowia

POCZTA, TELEGRAF I TELEFON:
62 — nacz. urzędu, b.
63 — nacz urzędu, m.
64 — nadzór teletechniczny
65 — technik nadzorowy, m.
76 — kasa
61 — telegraf
65 — zmiennik, dyżurny monter

Старонка тэлефоннага даведніка 1930 года.

● КАЛЯНДАР

18 ЧЭРВЕНЯ

**1911.** У в. Мінкі (цяпер у межах Смаргоні) нарадзіўся **Аляксандр Шыдлоўскі**, беларускі культурны дзеяч, кампазітар, педагог. Аўтар песень «Ой, ты, Нёман родны», «Колькі ў небе зор».



19 ЧЭРВЕНЯ

**1912.** У мястэчку Радунь нарадзіўся **Пятро Бітэль**, беларускі паэт, перакладчык, краязнаўца, настаўнік (пам. 18.10.1991). Жыў у Вішневе на Валожыншчыне, Маладзечне. Пахаваны ў Вішневе.



**1941.** Апошняя перадваенная масавая дэпартацыя ў заходніх абласцях Беларусі, Украіны, Малдовы. За 19-22 чэрвеня з Беларусі высланыя ў Сібір і Казахстан 22 тысячы чалавек.

20 ЧЭРВЕНЯ

**1939.** У Мінску нарадзіўся **Валеры Раеўскі**, беларускі тэатральны рэжысёр, народны артыст Беларусі (пам. 19.11.2011). Работы Раеўскага ставіліся ў т.л. у Мінскім абласным драмтэатры ў Маладзечне.

**1948.** У Вязынцы адкрыты філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

21 ЧЭРВЕНЯ

**1957.** У адным з ньюёркскіх гатэляў на Манхэтане амерыканскімі спецслужбамі арыштаваны савецкі агент **Вільям Фішар (Рудольф Абель).**

22 ЧЭРВЕНЯ

**1941.** Нацысцкая Германія напала на СССР. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны.

23 ЧЭРВЕНЯ

**1945.** У Вілейцы нарадзілася **Тамара Дудко**, гаспадарчы і грамадскі дзеяч. У 1966-1982 працавала на Маладзечанскім піўзаводзе. Трагічна загінула ў 1999. Яе іменем названая вуліца ў Маладзечне.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Нашы дзеці – не кара і не Гэта наш лад жыцця»

## Як жыве шматдзетная сям'я, у якой двое дзяцей маюць

МАЛАДЗЕЧНА

**– Нашы дзеці – усе вельмі розныя. Максім – самы шумны, але жаласлівы і крыўдлівы. Вікторыя – дзяўчынка, якой усюды трэба дабегчы, залезці, паскакаць. Надзея – адказная, спакойная, а яшчэ самая беспраблемная ў плане здароўя…**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Мы – вельмі шумная сям'я. Часам нават просім прабачэння ў суседзяў, – падзялілася Вера з журналістам. На каленях у Веры – Віка, побач на лаўцы – Максім, стаіць – Надзя.

Пра сваіх дзяцей маладзечанка **Вера Сівец** расказвае мне ў гарадскім парку. Тут жа з ёй разам – **Надзя**, **Максім** і **Віка**. Старэйшая, Надзея, стараецца заняць малых, але тыя перыядычна тузаюць маму і пытаюцца, калі ж нарэшце пойдуць на батут. Падаецца, звычайнае жыццё шматдзетнай сям'і. І ўсё ж…

### Вікторыя. Дзяўчынка, якая да чатырох гадоў перанесла тры сур'ёзныя аперацыі

Актыўная Віка больш за ўсіх дзяцей не можа дачакацца, калі ж надакучлівы журналіст адпусціць на атракцыёны. Сітуацыю на нейкі час ратуюць папкорн, Надзя і тэлефон. А тым часам мама расказвае пра Вікторыю.

Дачка Віка нарадзілася ў сям'і ў 2017-м. І ўжо на другія суткі немаўляці зрабілі аперацыю.

– Я ўжо мама з досведам. Трэцяе дзіця якніяк, – прыгадвае Вера падзеі чатырохгадовай даўнасці. – Убачыла, што ў першыя суткі ад нараджэння дачцэ стала дрэнна. Яна не ела, паднялася тэмпература. Адразу пабегла да медсястры. Высветлілася, што Віка нарадзілася з непраходнасцю кішэчніка – некрозам. У ім былі спайкі, таму ў арганізм не паступала ежа. Мусілі аперыраваць. Аперацыю рабіў хірург, загадчык хірургічнага аддзялення з дзіцячай абласной бальніцы **Аляксандр Нікуленкаў**. Асістэнтам быў маладзечанскі доктар **Андрэй Крывец**. Хоць аперацыя рэдкая, яе рабілі ў Маладзечне. Везці ў Мінск дачку ў яе стане было нельга.

Калі Віку прааперыравалі, ёй вывелі стому – штучную адтуліну. Доўгі час дзяўчынка была ў рэанімацыі, за ёй назіралі дактары. Дадому Вера з дачкой прыехалі толькі праз два месяцы. Увесь гэты час двое старэйшых дзяцей былі з татам.

Сёння Вікторыі – чатыры. Дзяўчынка перанесла тры аперацыі. З-за шматлікіх спаек у яе выдалены увесь тоўсты кішэчнік. Дактары тлумачылі Веры, што такую хваробу дачкі справакавала прастуда мамы падчас цяжарнасці, якраз у той час, калі ў дзіцяці фарміраваўся страўнікава-кішачны тракт.

І ўсё ж сёння бацькі бачаць маленькі прагрэс у стане дачкі:

– У два гады запрацавалі рэфлексы, Віка стала прасіцца на гаршчок. Хаця дактары не думалі, што з яе хваробай яны спрацуюць так рана. Другі шок для дактароў – тое, што мы ў тры з паловай гады пайшлі ў дзіцячы сад. Хай рэдка, але мы ходзім. Дачцэ патрэбныя зносіны з дзецьмі. І графік харчавання ў садку падыходзіць нам, і загадчыца **Святлана Дорах** уважліва ставіцца да дзяцей. Дзякуючы педыятрам мы падабралі правільную дыету, патрэбныя прэпараты. Так, у Вікі па-ранейшаму дрэнна засвойваецца ежа, пітво, важныя вітаміны. Дактары называюць яе вечна галодным дзіцем. Віка часта есць, але ежа выходзіць амаль непераваранай. Напрыклад, фрукты – як з мясарубкі. Мы не дабіраем вагі. П'ём дзіцячую сумесь, слоічак якой каштуе 38 рублёў, і хапае яе на чатыры дні. У халадзільніку штодзённа павінны быць малако, кефір, ёгурты. Ужываем прабіётыкі.

Хай маленькімі, хай ледзь заўважнымі крокамі, але стан Вікі паляпшаецца. А Максім?

### Максім. Хлопчык, для якога не выпускаюць лекаў у Беларусі

– Нашаму Максіму восем з паловай год. Кожная раніца для яго пачынаецца з прыёму лекаў строга па графіку. Прачынаемся – лекі. Пасля – сняданне і зноў лекі. Ужо паўгода мы п'ём корцікастэроідны прэпарат – дэфлазакорт, які нам знаёмыя і незнаёмыя людзі прывозяць з-за мяжы – Егіпта, Арабскіх Эміратаў, Турцыі. У Беларусі ён не зарэгістраваны. А прэпарат неабходны сыну, бо запавольвае прагрэсіраванне хваробы – мышачнай дыстрафіі Дзюшэна-Бекера. Інакш кажучы, працягвае перыяд самастойнага хаджэння Максіма. Ад таблетак ёсць пабочныя эфекты. Мы вымушаныя кантраляваць сэрца, шчыльнасць касцей, бо з-за таблетак арганізм не засвойвае кальцый, вітаміны, іншыя важныя рэчывы, – Вера расказвае пра хваробу сына амаль як медык.

Прыгадвае, што да шасці гадоў пра хваробу Максіма бацькі нічога не ведалі. Ён проста нарадзіўся слабым. Хлопчыку прызначалі масажы, электрастымулятары. Ён часта хварэў на пнеўманію, бранхіт. Бацькі па чарзе хадзілі на бальнічныя і думалі, што перарасце. А яшчэ Максім позна пайшоў. Мама дакладна памятае ўзрост – у год, тры месяцы і два тыдні.

У шэсць год з чарговай пнеўманіяй хлопчык трапіў у Маладзечанскую дзіцячую бальніцу. Загадчыца педыятрычнага аддзялення **Ірына Кісліцкая** звярнула ўвагу, што ў аналізах дрэнныя пячоначныя паказчыкі, што пнеўманія ўжо другі раз на год і яна працякае вельмі цяжка.

– Пры добрых умовах жыцця і харчавання гэта дзіўна. Зразумелі: нешта не так, – працягвае Вера. – Мы патрацілі год на ўсе магчымыя абследаванні. А між тым, трэба было гадаваць яшчэ двое дзяцей. І тут зноў мне вельмі дапамагаў муж Сяргей.

Доктар накіравала хлопчыка на абследаванне ў дзіцячую абласную бальніцу ў Мінску. Тут загадчыца неўралагічнага аддзялення **Святлана Хітро** расказала маме пра магчымую хваробу і пра тое, што чакае бацькоў і сына, калі дыягназ пацвердзіцца.

Летам 2020 сям'я атрымала генетычнае пацвярджэнне хваробы Максіма – мышачнай дыстрафіі Дзюшэна-Бекера. Аналіз рабілі не ў Беларусі. Тут на той час не было рэактываў. Для даследавання кроў Максіма, узятую ў Мінску, вазілі ў Маскву. Ужо маючы вынікі з Масквы, неўролаг РНПЦ неўралогіі **Святлана Кулікова** растлумачыла бацькам, што за хвароба ў Максіма і да чаго трэба рыхтавацца.

Пакуль прагнозы дактароў спраўджваюцца, заўважае Вера. У хваробы ёсць два цячэнні – Дзюшэна і Дзюшэна-Бекера. Пры правільным падыходзе, рэабілітацыі і занятках у Максіма будзе цячэнне Дзюшэна-Бекера, больш лёгкае.

– Мы пакуль яшчэ ходзім на сваіх нагах. Хаця разумеем: рана ці позна сядзем у інвалідны вазок. Шмат займаемся. У нас дома – трэнажоры, розныя сродкі рэабілітацыі. Робім расцяжку па методыцы італьянскага спецыяліста, выконваем рэкамендацыі артапеда РНПЦ артапедыі **Рустама Айзатуліна**. Кожныя паўгода ездзім у Цэнтр паліятыўнай дзіцячай дапамогі.

Вера прыгадвае: калі доктар расказаў пра дыягназ Максіма, слёзы і хваляванне, вядома, былі. Але панікі і дэпрэсіі – па мінімуму:

– Адразу пачала чытаць пра хваробу ў інтэрнэце. Так атрымалася, што першым ударам для нас была хвароба Вікі. Таму нервовая сістэма ўжо была загартаваная. Адразу аднекуль узяліся дадатко-

# выпрабаванне.

# інваліднасць




фота забяспечанае Верай СІВЕЦ.

Падарунак для мамы ад сына Максіма.

выя сілы – не апускаць рукі, не кіснуць, шукаць і вырашаць праблемы, знаходзіць прэпараты і дактароў. У мяне ёсць такая рыса характару – у экстранный сітуацыі я не плачу, а наадварот, мабілізуюся і шукаю рашэнне.

Сёння бацькі заўважаюць, што Максім хутка стамляецца, без дапамогі яму цяжка падымацца па лесвіцы. У школу №11 Вера заўсёды адводзіць сына, хоць хлопчыку ўжо хочацца самастойнасці. Часам Максім ходзіць прыстаўным крокам. З-за хваробы ў яго памянялася фігура – крыху выдаецца наперад грудная клетка. Ён не ўмее ездзіць на ровары і не можа, хоць вельмі хоча, паганяць з хлопчыкамі ў футбол.

У школе Максіму цяжка спусціцца з паверха на паверх. Тут яму дапамагаюць аднакласнікі і класны кіраўнік **Ларыса Пупкевіч**. А вось вучоба даецца лёгка:

– Яму падабаецца вучыцца. Ён цікавіцца матэматыкай, камп'ютарамі, любіць маляваць, пакуль фізічна маглі, займаліся танцамі. Год адвадзілі сына на заняткі па гітары. Уявіце, яму падабаецца сальфеджыа. Інтэлект у Максіма цалкам захаваны. Яшчэ ў дзіцячым садку выхавальнікі звярнулі ўвагу, што ў яго добрая памяць.

Бацькі глядзяць у будучыню і хацелі б даць хлопчыку добрую адукацыю. Часта дзеці з такім дыягназам слабыя фізічна, але моцныя разумова, адзначае мама.

– Але ж калі ў медыцыне мы бачым прагрэс, то з вучобай дзяцей з інваліднасцю ў Беларусі пакуль вялікія праблемы, – дзеліцца Вера. – Сумна, што ў школе Максім зможа вучыцца недзе да чацвёртага класа, а далей нас чакае надомнае навучанне. Я не лічу яго паўнавартасным. А сістэма сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі ў нас увогуле не прыстасаваная для дзяцей з інваліднасцю.

...Пакуль замежны дэфлазакорт дапамагае Максіму. Па словах мамы, таблеткі будуць працаваць бліжэйшыя два-тры гады і крыху запавольваць развіццё хваробы. А што далей? Пакуль невядома.

### Надзея. Самая спакойная і беспраблемная

Толькі паразмаўляўшы з мамай пра Максіма і Віку, да канца разумею яе словы пра «беспраблемнасць здароўя» Надзеі. Занятая сваімі юначымі думкамі, дзяўчынка гартае тэлефон, адказна паглядае на малодшых. Яна сапраўды самая спакойная. Ды і пытанне батута і атракцыёнаў для сямікласніцы ўжо не вельмі актуальнае, відаць.

Мама кажа, што Надзя вельмі спагадлівая, заўсёды адгукаецца да просьбаў. Дзяўчынка захапляецца музыкай і маляваннем. Наведвае музычную школу і выяўленчую студыю.

– Некаторым падаецца, што наша Надзя панурая. Але гэта не так. Мы ведаем, якая яна вясёлая дзяўчынка. Проста часам стрымлівае эмоцыі. Усё робіць не спяшаючыся, абдумана. Гэта не Максім, які тое, што не можа фізічна, кампенсуе эмацыйна. Надзя заўсёды гатовая дапамагчы нам з малодшымі, але мы з мужам стараемся яе асабліва не загружаць. Хочам, каб у дачкі быў час на асабістыя справы.

Ужо шэсць год Надзя іграе на фартэпіяна. І ўсе шэсць год Вера не перастае здзіўляцца, як муж са сваімі сябрамі змог занесці інструмент у інтэрнацкі пакойчык на восьмы паверх.

Тры гады таму ў Надзі знайшлі скаліёз, але з гэтай хваробай можна справіцца, перакананыя бацькі. А вось з хваробамі Максіма і Вікі – не.

### Мама – пра сябе

Пра дзяцей Вера гатовая расказваць бясконца. Пра сябе менш. І ўсё ж.

### Пра адукацыю, працу, захапленні

– Я бухгалтар з вышэйшай адукацыяй. Праца вельмі падабалася мне. Апошнія месца – крама ў індывідуальнага прадпрымальніка. Там адпрацавала каля пяці гадоў. Праўда, часта хадзіла на бальнічныя. Крама зачынілася, я засталася без працы. Цяпер нідзе ўладкавацца не магу – частыя рэабілітацыі і бальніцы не даюць быць паўнавартасным спецыялістам. Быў час, калі займалася рамеснцтвам – шыла, вязала. Цяпер амаль увесь час займаюць дзеці.

### Пра мужа

– Сяргей – рабочы зялёна-паркавай гаспадаркі ў «Камунальніку». Ён вельмі адказны сем'янін. Калі з кімсьці з дзяцей я займалася здароўем і лячэннем, муж даглядаў дваіх іншых. Сяргей адразу зразумеў і прыняў сітуацыю і з Вікай, і з Максімам. Хаця ведаю, што не ва ўсіх сем'ях так. Сёння ён на лецішчы. Дзеля артыкула не сталі яго турбаваць.

### Пра слёзы

– Плачу я не часта. І, хутчэй, слёзы могуць выклікаць нават не дрэнныя навіны, а нейкія кранальныя ўспаміны, каханне, дабрыня.

### Пра цырульню і манікюр

– Схадзіць у цырульню і на манікюр? Не. У мяне не тое, што зрабіць гэта, няма часу падумаць пра гэта. Калі з'яўляюцца нейкія паўгадзінкі, хочацца проста прылегчы або выпіць кавы. Дзякуй мужу, які часам забірае дзяцей і яны ідуць гуляць.

### Пра непаразуменне

– Калі ў сям'і з'яўляецца дзіця з інваліднасцю, частка сваякоў, знаёмых, сяброў адразу адсейваецца. Яны шмат чаго не разумеюць і не прымаюць. Часта ў нараджэнні хворага дзіцяці абвінавачваюць бацькоў альбо медыкаў. Але гэта далёка не заўсёды так.

Некаторыя не разумеюць сур'ёзнасць хваробы. Кажуць: «перарасце» або «папіце вітамінчыкаў». Не ўсе прымаюць мой лад жыцця, не разумеюць, куды трацяцца грошы. Хтосьці кажа, што нараджэнне дзяцей з інваліднасцю – гэта кара, хтосьці – што выпрабаванне. А я гэта ўспрыняла як лад жыцця.

### І зноў пра дзяцей

– Канешне, калі чакаеш дзіця, то не думаеш пра тое, што яно народзіцца з інваліднасцю. Калі ж такое здараецца, мяняецца ўвесь лад жыцця. Мы чакалі нараджэння Вікі, яшчэ не ведалі пра хваробу Максіма. Падавалася: вось як у нас усё добра – муж працуе, я працую. Можам забяспечыць дзяцей і сябе. Але ўсё змянілася ў адзін момант.

### Як працуе дабрачынная арганізацыя «Геном»

У Беларусі пацыентамі з мышачнай дыстрафіяй займаецца сацыяльная дабрачынная грамадская арганізацыя «Геном». Па словах Веры, арганізацыя вельмі дапамагае іх сям'і і кансультацыямі, і сродкамі рэабілітацыі для Максіма.

Дзякуючы ініцыятыве «Генома» цяпер пацыенты з мышачнай дыстрафіяй могуць атрымліваць неабходныя лекі, якіх няма ў Беларусі. Сябры арганізацыі распавялі карэспандэнту, што для гэтага трэба звяртацца ў паліклініку па месцы прапіскі. Медыкі распішуць патрэбу хворага ў прэпараце, і патрэбныя лекі праз «Белфармацыю» даставяць з-за мяжы ў Беларусь.

### Крыху статыстыкі

Згодна з аналітычнай справаздачай «Агляд аб стане дзяцей-інвалідаў і маладых інвалідаў у Беларусі», на лютым 2017 года 29 931 дзіця з інваліднасцю ва ўзросце да 18 гадоў стаяла на ўліку ў органах па працы, занятасці і сацабароне. Гэта 1,6 працэнта ад усіх дзяцей Беларусі.

– Штогод гэты статус атрымлівае больш за тры з паловай тысячы дзяцей.

– 3,3 працэнта ўстаноў дашкольнай, школьнай і спецыяльнай адукацыі на 2017 год мелі безбар'ернае асяроддзе.

– Больш за палову дзяцей з інваліднасцю не могуць абыходзіцца без дапамогі навакольных людзей.

– Трэцяя частка сямей, дзе гадуюць дзіця-інваліда, – гэта няпоўныя сем'і.

Мы шукалі статыстыку пра тое, колькі сямей у Беларусі гадуе больш, чым адно дзіця з інваліднасцю, але не знайшлі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

Сям'я Веры Сівец удзячная ўсім спецыялістам, згаданым у артыкуле, а таксама загадчыку дзіцячага хірургічнага аддзялення ў Маладзечне Алегу Кальчанку, хірургу дзіцячай паліклінікі Ігару Самарыну, медсястры Тацццяне Зелянкевіч, загадчыцы інфекцыйнага аддзялення дзяцей да года дзіцячай абласной бальніцы Алене Кудзінай, участковаму педыятру Ларысе Лібман, медсёстрам Таццяне Мамай і Святлане Жызнеўскай, неўролагу РНПЦ неўралогіі Алёне Мірзаян, галоўнаму доктару Цэнтра паліятыўнай дзіцячай дапамогі Жанне Безлер і неўролагу гэтай установы Лізавеце Меньшыкавай, педыятру палеатыўнай дапамогі Ірыне Швайкоўскай і медсястры Юліі Наўталонавай, неўролагу Людміле Жук, рэабілітолагу дзіцячай паліклінікі Ірыне Зубачовай, кіраўніку Цэнтра па вывучэнні нейрамышачных захворванняў, галоўнаму пазаштатнаму неўролагу Беларусі Ірыне Жаўняронак, намесніку галоўнага доктара Маладзечна Наталлі Свірыда.

**Дабрачынныя рахункі для дапамогі Максіму і Вікторыі**
Для аплаты лячэння, рэабілітацыі і медыцынскіх паслуг, а таксама для набыцця лекаў, сродкаў рэабілітацыі дзяцей і паляпшэння якасці іх жыцця сям'я просіць дапамогі.

<u>Сівец Максім Аляксандравіч,</u> 09.10.2012, група інваліднасці-2, дыягназ – мышачная дыстрафія Дзюшэна-Бекера, інтэлект цалкам захаваны.
Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў ААТ «АСБ Беларусбанк», аддзяленне №601/5127, адрас: Маладзечна, вуліца Хмяльніцкага, д. 26-а, БІК AKBBBY2X.
BY71 AKBB 3134 0000 0066 0007 0000 BYN
BY44 AKBB 3134 3000 0028 3007 0000 RUB
BY14 AKBB 3134 1000 0035 0007 0000 USD
BY63 AKBB 3134 2000 0031 1007 0000 EUR
4255 1901 2677 4317 до 03/24 – карта Беларусбанка
(+375-29) 209-39-76 абаненцкі нумар МТС

<u>Сівец Вікторыя Сяргееўна,</u> 13.06.2017, група інваліднасці – 2. Сіндром кароткай кішкі, інтэлект цалкам захаваны.
Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў ААТ «АСБ Беларусбанк», аддзяленне №601/5127, адрас: Маладзечна, вуліца Хмяльніцкага, д. 26-а, БІК AKBBBY2X.
BY56 AKBB 3134 0000 0066 1007 0000 BYN
BY29 AKBB 3134 3000 0028 4007 0000 RUB
BY96 AKBB 3134 1000 0035 1007 0000 USD
BY48 AKBB 3134 2000 0031 2007 0000 EUR
4255 1901 2677 4317 до 03/24 – карта Беларусбанка
(+375-29) 209-39-76 абаненцкі нумар МТС.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем чытачоў і герояў публікацый. Яны складаюць спіс любімых твораў мастацтва і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Таршэр

## Дазваляйце сабе пабыць у моманце – пераводзіць вочы з навін у неба

**У сённяшнім выпуску «Таршэра» пра любімыя творы мастацтва расказвае Янка Уладыка – перакладчыца з Маладзечна.**



Фота забяспечанае Янкай УЛАДЫКАЙ.

Янка Уладыка.

### Працы японска-амерыканскага мастака Sho Shibuya

Кожны дзень лакдаўна мастак зафарбоўваў першую паласу The New York Times пейзажамі світанку са свайго акна.

Я таксама ціха з'язджала з глузду на лакдаўне на маладзечанскай вуліцы Крынічнай. Я ведаю, што гэта такое – фоткаць кожны дзень адзін і той жа пейзаж, які заўсёды апынаецца іншым.

*Навошта вам на гэта глядзець:*

У наш няпросты час варта дазваляць сабе хаця б час ад часу пабыць у моманце: адпусціць актуальны парадак дня і перавесці вочы з навін на неба.

*Што яшчэ паглядзець:*

Найлепш, канешне, махнуць куды-небудзь на прыроду. У закрытых памяшканнях можна паглядзець медытатыўныя фільмы кшталту фільмаў Таркоўскага або «Краіны качэўнікаў». Вярнуць веру ў чалавецтва дапаможа Марк Шагал. Вярнуцца ў шчаслівае маленства – суполка «Перавясла» ў «Фэйсбуку».

### Адажыа Ружы з балета «Маленькі Прынц» Яўгена Глебава (1979)

Адзін з найгалоўнейшых твораў беларускай музыкі – па версіі музычных школ краіны.

Балет паводле Экзюперы – 1981 года, а адажыа было напісанае яшчэ для культавага фільма «Дзікае паляванне караля Стаха», дзе я яго ўпершыню і пачула. Без гэтай музыкі «Паляванне» было б ужо іншым: лічу, абсалютнае трапленне ў настрой: трагізм і надзея, касмічны сум і касмічная пяшчота.

*Навошта гэта слухаць:* пачаць адкрываць сусвет беларускай «класічнай» музыкі. Папярэджанне: «класічная» музыка 20-га стагоддзя часта разбурае чаканні адносна «прыгожай фонавай музыкі».

### «Ваенны лётчык» Антуана дэ Сэнт-Экзюперы, 1942

Гісторыя аднаго баявога палёту вясной 1940 года, неўзабаве перад капітуляцыяй Францыі.

У пэўны момант жыцця гэта кніга выцягнула мяне з дэпрэсіі.

*Навошта гэта чытаць:* каб даведацца, як пераадолець страх і агульную млявасць і абыякавасць да жыцця, калі здаецца, што твая бітва ўжо прайграная і ты не бачыш аніякага сэнсу ані ў сваёй ролі, ані ў чужых ахвярах у гэтым трагічным фарсе. Ну, і проста заўсёды прыемна паразмаўляць з Экзюперы за жыццё і па душах. Займальна – і хоць да раны прыкладай.

Ёсць пераклад на беларускую Ніны Мацяш.

*Што яшчэ пачытаць:* іншыя кнігі Экзюперы – іх не так ужо і шмат.

### Мультфільм «Жоўты падводны човен» (Yellow Submarine), 1968

Поўнаметражная, збольшага ўручную маляваная прыгодніцкая казка паводле найлепшых песень The Beatles: сілы дабра (бітлы) плывуць вызваляць чароўны край Пэперленд ад фашысцкай дыктатуры Сініх Паскудаў.

Мульцік, з якога пачалася любоў усяго майго жыцця да бітлоў. І не было б ніякага «іньязу».

*Навошта гэта глядзець:* Песню Yellow Submarine хто ж не чуў, а мульцік не ўсе глядзелі. Прышчэплівае мастацкі густ і любоў да авангарду і абсурдысцкага гумару. А яшчэ там Сініх Паскудаў перамагае мірны пратэст.

### Альбом «Краіна Талераў» гурта «Камелот», 1995

Легендарны, але незаслужана падзабыты фольк-рок.

У маленстве касета «Камелот» не саступала ў мяне па папулярнасці бітлам. А потым, калі я даведалася пра гурт больш, апынулася, што, анягож, на тыя часы яны былі пад моцным уплывам той самай чацвёркі. Але «Краіна Талераў» – зусім не другасная, а абсалютна самадастатковая канцэртная праграма. І так, заўважана – дзецям асабліва падабаецца.

*Навошта гэта слухаць:* па-першае, гэта прыгожа. Паслухайце, нават калі вы далёкія ад рыцарскай рамантыкі.

*Што яшчэ паслухаць:* Вельмі трапляе ў сённяшні дзень альбом «Краіна доўгай белай хмары» 1990 года «Уліса» – яшчэ адна легендарная каманда з 90-х, пра якую не часта прыгадваюць. Увогуле, варта прайсціся па плэйлісце «Тузіна» «60 беларускамоўных гітоў сучаснасці»:

### Спектакль «По По» Яўгена Грышкаўца з удзелам Аляксандра Цэкалы, 2007

Страшна смешны спектакль паводле твораў Эдгара Алана По. «Как-то вдруг случилось, что все вокруг умерли».

Проста дзіўна, як гатычныя страшылкі часам могуць падымаць настрой. Па-свойму – сеанс псіхатэрапіі: паглядзець у вочы сваім страхам праз смех, прыняць і абняць у сабе маленькае дзіцяня.

Нават калі вы не чыталі По або не вялікі фанат павольных маналагічных спектакляў Грышкаўца, дынамічны і пяшчотны, трагікамічны дуэт Грышкаўца і Цэкалы якраз можа вам зайсці.

*Што яшчэ паглядзець/пачытаць:* тут зразумела – самога По і іншыя спектаклі Грышкаўца.

### Альбом Con Todo el Mundo трыа Khruangbin, 2018

Інструментальная музыка, месцамі са словамі. Фон для адпачынку, а можна і для працы. Псіхадэлічныя гітары, соўл, даб, фанк – простым пералікам усіх стылістычных уплываў цяжка патлумачыць гэты боскі мікс заходу і ўсходу.

З гэтымі кайфовымі тэхасцамі я пазнаёмілася праз музычнае відэа Evan Finds the Third Room, дзе ўсмешлівая кітаянка ходзіць па горадзе, круцячы нябачны хулахуп. Гэта была любоў.

Вельмі парадавала іх свежая калабарацыя з самім Макартні: расслабленны кавер на Pretty Boys з апошняга альбома бітла.

*Навошта гэта слухаць:* адпусціць боль і стому і добра адпачыць – памокнуць у канцы дня ў ваннай, напрыклад.

*Што яшчэ паслухаць/паглядзець:* беларускі Dee Tree: альбом All is 111, 2019. Іх свежы сёлетні «Усю восень» — асаблівая ўвага на вокладку пад маляваныя дываны.

### «РайЦэнтр» Тані Скарынкінай, 2020

Калекцыя эсэ адной з найлепшых сучасных аўтарак Беларусі – і яна са Смаргоні!

Адкрыццё апошняга шалёнага года – хаця Таня піша ўжо даўно-даўно і ледзь не атрымала прэмію Гедройца ў 2015-м. Трохі правінцыйнай крынічнай вадзічкі ў тлумным мінскім мурашніку.

*Навошта гэта чытаць:* палюбіць маленькага чалавека ў сабе і іншых. Навучыцца чытаць людзей як кнігі і бачыць сэрцам. Зразумець, што ты жывеш/жыў/будзеш жыць у РАЙцэнтры.

*Што яшчэ пачытаць/паглядзець:* Пачытаць Чэслава Мілаша, Еву Вежнавец, Насту Кудасаву і Вольгу Гапееву. Арт-праект «Я могу всё объяснить».

### Альбом «Колер Беларусі» Міхала Анемпадыстава, 2017

Аўтарскі фотаальбом і нізка нянудных мастацтвазнаўчых эсэ пра сімвалічную і практычную ролю колераў у беларускай культуры. Даследаванне беларускага стылю, якое лепш не чытаць, а разглядаць.

Я не магу ўпіхнуць у гэту гарачую дзясятку ўсе тыя мастацкія творы, вырабы і артэфакты, якія люблю, кшталту Вастрабрамскай Маці Божай, маляваных дываноў або бабулінай посцілкі. Але многія з іх ужо сабраў пад адной вокладкай спадар Міхал.

*Навошта гэта чытаць/глядзець:* больш за якое чытво або фільм я параіла б вам паўглядацца ў простыя рэчы навокал, памацаць і панюхаць іх. «Колер Беларусі» – добры падручнік гэтай тэрапеўтычнай практыкі для пачаткоўцаў.

*Што яшчэ пачытаць/паглядзець:* «Народны Альбом» – музычны праект і канцэрт, аўтар амаль усіх песень – Міхал Анемпадыстаў. Графічныя працы спадара Міхала і лекцыі для «Лятучага Універсітэта». Тэксты Валянціна Акудовіча, Ігара Бабкова, Ірыны Дубянецкай. Эсэ «Адвечным шляхам». Альбомы праекта VEHA. Свае дамашнія фотаальбомы.

### «Чырвоны квадрат» Казіміра Малевіча, 1915

Насамрэч, ромб. Поўная назва – «Жывапісны рэалізм сялянкі ў двух вымярэннях» або проста – «Жанчына ў двух вымярэннях».

Мяне доўга-доўга асабліва не чапляў супрэматызм. Памятаю дату – 25 сакавіка 2020 года, калі я выпадкова натрапіла сярод дамашніх архіваў на рэпрадукцыю «Квадрата». Быў час Вялікага посту, і я зразумела: гэта ідэальная, мінімалістычная і абсалютная ікона Пасхі, перамогі Жыцця над Смерцю. Чырвоны колер – сімвал Хрыста, і супрэматысты насамрэч натхняліся старажытнымі абразамі. Потым ужо, гарачым летам у Нацыянальным мастацкім адкрылася выстава «Чырвоны – код нацыі». А ў жніўні я канчаткова зразумела, якім прарочым было маё адкрыццё «Жанчыны ў двух вымярэннях» – пра жанчын, у тым ліку, мы далей даведаліся шмат.

# Колькі каштуе гадаваць ката

**Падчас пандэміі, паводле статыстыкі Google, жаданне завесці дамашнюю жывёлу павялічылася на 62%. У сувязі з гэтым аналітычны аддзел Picodi.com вырашыў даведацца, з якімі выдаткамі сутыкаюцца ўладальнікі сабак і катоў. Пра выдаткі на сабаку мы расказвалі ў мінулым нумары. У гэтым – пра выдаткі на катоў.**

Сярэдняя цана кацянят самых папулярных у Беларусі пород – 500 рублёў. А дадатковыя выдаткі на кастрацыю/стэрылізацыю і чыпіраванне павялічваюць разавыя выдаткі на 182 рублі.

**Кошт самага неабходнага набору, які складаецца з латка, савочка, кагцяточкі, ляжанкі, шчоткі, місак, нажніц для кіпцюроў і пераноскі, можа раўняцца 220 рублям.**

Пашыраны набор (+ 440 рублёў) дадаткова ўключае ў сябе шлейку, ланцужок, вопратку, домік і аўтаматычную кармушку.

Рэгулярныя выдаткі на ката мы падзялілі на пяць катэгорый:

- корм;
- цацкі;
- догляд;
- абследаванне ў ветэрынара;
- дадатковыя паслугі.

**Гадавое харчаванне ката абыдзецца ўладальніку ў 850 рублёў. Калі аддаць перавагу прэміум-кармам, то гэтая сума вырастае да 2 500 рублёў.**

Цацкі са стандартнага набору («рыбкі», вуды-цвялілкі, мячыкі) будуць каштаваць парадку 30 рублёў. Калі дадаць у гэту катэгорыю развіццёвы гаджэт, то цана камплекта павялічыцца на 40 рублёў.

Догляд – другая па дарагавізне катэгорыя ў «кацінай» частцы даследавання. Гадавыя выдаткі на стандартны набор дасягаюць 367 рублёў.

**У гэту катэгорыю патрапілі напаўняльнік для латка, аднаразовыя пялюшкі, шампунь, сродкі ад блох, кляшчоў і паразітаў.**

А стрыжка і мыццё ката ў салоне абыдуцца ў дадатковыя 205 рублёў.

**Прафілактычны агляд у ветэрынара раз у год у сярэднім каштуе 19 рублёў. Неабавязковыя, але рэкамендаваныя прышчэпкі і чыстка зубоў абыдуцца ў 50 рублёў.**

Да дадатковых паслуг, як і ў сабак, адносяцца страхоўка і знаходжанне ў адмысловым гатэлі для жывёл (290 рублёў).

**Сумуючы ўсе неабходныя і стандартныя выдаткі, можна сказаць, што гадавое «абслугоўванне» ката каштуе 1 266 рублёў.**

Калі аддаць перавагу больш дарагім кармам і дадатковым таварам, то гэта сума ўзрастае на 2 235 рублёў (усё разам 3 501 рубель).

**Паводле picodi.com.**



● ФУТБОЛ – ГЕРМАНІЯ

# Зборная Германіі прайграла Францыі на чэмпіянаце Еўропы

**15 чэрвеня зборная Германіі і Францыі праводзілі адзін з самых галоўных матчаў на гэтым чэмпіянаце Еўропы па футболе. Матч адбыўся на стадыёне ў Мюнхене: перад ім быў перформанс «Грынпіс» і адно з самых горкіх паражэнняў немцаў на еўрапершынстве. «Рэгіянальная газета» расказвае, як прайшоў матч немцаў і французаў.**



Фота elpais.com.

Хумельс пасля аўтагола.

### Што ўяўлялі сабой каманды перад гульнёй

Зборная Германіі ніколі не пачынала чэмпіянат Еўропы з паражэння: толькі з перамог ці нічых (сем супраць пяці). Бліжэй да паражэння немцы апынуліся ў 1992 годзе, калі гулялі супраць СНД, але за секунды да фінальнага свісткі забіў Хеслер.

**Дарэчы, гэты чэмпіянат Еўропы будзе апошнім для галоўнага трэнера Ёхіма Лёва, які адпрацаваў з «бундэсцім» 15 год. Пасля турніру яго зменіць трэнер «Баварыі» Хансі Флік.**

Лёў вярнуў у каманду ветэранаў **Томаса Мюлера** і **Матса Хумельса**. А перад гульнёй з французамі крыху змяніў пазіцыі. Напрыклад, правага абаронцу стаў гуляць **Ёзуа Кіміх**.

Нямецкі трэнерскі штаб выпусцілі слабых у адборы **Ілкая Гюндагана** і **Тоні Кроаса**. І вялікая праблема і галоўны боль для Лёва – адсутнасць моцнага форварда.

Футбольныя эксперты лічаць, што Францыя – галоўны фаварыт чэмпіянату Еўропы. Сярод яскравых гульцоў ёсць **Рафаэль Варан**, **Антуан Грызман**, **Поль Погба**, **Нгола Кантэ**, **Кіліян Мбапэ**, **Карым Бензэма**. Для Францыі і Германіі гэта быў першы матч на чэмпіянаце Еўропы-2021, які ў мінулым годзе перанеслі праз пандэмію каронавіруса.

### Акцыя «Грынпіса»

Гульня немцаў і французаў пачалася з шоу, якое ніхто не чакаў. Калі каманды ўжо выйшлі на поле і матч павінны быў стартаваць, на поле прызямліўся чалавек з жоўтым парашутам. На парашуце было напісана Kick Out Oil («Пазбаўцеся ад нафты»).

**Падчас прызямлення парашутыст зачапіў трос, на якім мацуецца камера. У выніку мужчына амаль што згубіў кіраванне і амаль не трапіў на трыбуну.**

Пазней УЕФА паведаміла, што некалькі людзей парашутыст усё-ткі зачапіў, іх шпіталізавалі. У іх лік мог трапіць галоўны трэнер зборнай Францыі **Дзідзье Дэшам**, каля яго ўпалі абломкі. Еўрапейская федэрацыі футбола назвала акцыю неразважлівай і вельмі небяспечнай.

Арганізатарам акцыі быў «Грынпіс», які такім чынам перадаў «прывітанне» галоўнаму спонсару Еўра «Фольксвагену».

### Аўтагол, які пахаваў нямецкую каманду ў матчы

Першыя 20 хвілін сустрэчы немцаў і французаў быў роўны футбол. Аднак французы вельмі хутка ўключыліся ў гульню і абарона нямецкай каманды пасыпалася. Хумельс памыліўся ў абароне каля сваіх варот: Погба перадачай знайшоў Эрнандэса, а той якасна прастрэліў на Мбапэ, а немец проста зрэзаў гэты прастрэл.

Немцы спрабавалі ўскрыць абарону французаў перадачамі, але яны былі перахопленыя. Толькі Гюндогану атрымалася прабіць з цэнтра штрафной, але недакладна. У другім тайме сіл на атаку хапіла толькі ў Гнабры і Госэнса. У французаў атрымлівалася лепш, але галы не ўлічваліся праз становішча па-за гульнёй: спачатку ў Мбапэ, а пасля і ў Бензэмы.

У выніку Францыя пацвердзіла свой статус: фаварыты Еўра. Наступны матч немцы згуляюць супраць партугальцаў.

Для Германіі гэта першы аўтагол у гісторыі выступлення на еўрапейскіх чэмпіянатах. Увогуле немцы забівалі ў свае вароты на афіцыйных турнірах толькі адзін раз: на чэмпіянаце свету-1978 у свае вароты забіў **Бэрці Фогц**.

Для гэтага чэмпіянату Еўропы аўтагол Матса Хумельса стаў трэцім на турніры. Раней у свае вароты забілі Мерых Дэмірал і Войцех Шчэнсны. Еўра ўжо паўтарыў рэкорд па аўтаголах чэмпіянатаў Еўропы, які быў устаноўлены ў 2016 годзе.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## «Маладзечна»: першае паражэнне і яшчэ адна перамога

У шостым туры чэмпіянату другой лігі «Маладзечна» прайграла чаркаскаму «Фалько» – **3:5**. За каманду маладзечанцаў забілі **Сяргей Галюк**, двойчы **Артур Сарамаха**.

У сёмым туры маладзечанскія футбалісты рэабілітаваліся. У матчы супраць «Смалявічаў» яны забілі чатыры галы. Аўтарам усіх мячоў аказаўся Артур Сарамаха. Сарамаха знаходзіцца на трэцім месцы сярод бамбардзіраў у Мінскім дывізіёне «Поўнач».

«Маладзечна» займае пятае месца ў турнірнай табліцы (4 перамогі і 1 паражэнне). Наступная гульня для маладзечанцаў адбудзецца супраць «СМІаўтатранс» 19 чэрвеня.

**Настасся УТКІНА.**

## «Вілія» прайграла дзве гульні запар

Вілейская каманда саступіла ў дзвюх сустрэчах запар. У пятым туры вілейчукі прайгралі «СМІаўтатрансу» з лікам **2:6**. За «Вілію» забівалі **Уладзіслаў Шабуня** і **Іван Клімовіч**. У шостым туры вілейчукі атрымалі паражэнне ад «Уздзы» – **1:2**. Адзіны гол у матчы забіў **Максім Вітко** ў дадатковы час.

«Вілія» знаходзіцца на сёмым месцы ў турнірнай табліцы. Наступны матч вілейчукі правядуць 20 чэрвеня супраць дзяржынскага «Адзінства».

**Настасся УТКІНА.**

## «Астравец» перамог, «Ашмяны» саступілі

У Гродзенскім дывізіёне ў чэмпіянаце другой лігі гуляюць дзве каманды нашага рэгіёна. «Астравец» займае першае месца і яшчэ ні разу не прайграў у гэтым сезоне. У апошнім пятым туры астраўчане перамаглі «Граніт-Агра» з лікам **4:0** (**Георгі Чытанава**, **Сяргей Новік**, двойчы **Сяргей Крот**).

«Ашмяны» прайгралі ў сухую гульню «Мастам» у пятым туры. Прадстаўнікі каманды з Мастоў забілі тры мячы без адказу ў вароты ашмянцам. «Ашмяны» займаюць 11 месца з 13 у турнірнай табліцы.

Наступны матч «Астравец» згуляе з ваўкавыскай «Зменай» 19 чэрвеня. «Ашмяны» правядуць матчы са «Свіслаччу» 16 чэрвеня і «Лідай-2» 20 чэрвеня.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Валодаць навыкамі рабіць што-небудзь.
3. Найменне.
4. Грошы ці матэрыяльныя каштоўнасці, якія атрымліваюцца дзяржавай, гандлёва-прамысловай установай, прыватнай асобай у выніку якой-небудзь дзейнасці.
6. Шост, тычка, звычайна з пучком травы або галінак на канцы для абазначэння мяжы, напрамку, руху.
8. Прымяненне, выкарыстанне ў штодзённым жыцці.
10. Вадзіцель аўтамабіля.
11. Асноўная арганізацыя першабытна-абшчыннага ладу, члены якой звязаныя адносінамі сваяцтва і агульнасцю гаспадаркі.
13. Чаканне чаго-небудзь добрага, якое спалучаецца з упэўненасцю ў тым, што яно збудзецца.
14. Верхняе мужчынскае адзенне, якое мае дзве калашыны і закрывае ніжнюю частку тулава разам з нагамі.
15. Альбер Камю: «Свабодны толькі той, хто можа дазволіць сабе не ...».
17. Дакладны каляндарны час якой-небудзь падзеі, здарэння.
20. Эдзі Агняцвет: «Зямля з блакітнымі вачамі – Раздолле рэчак і лугоў! Тут называюць ... На Беларусі хлапчукоў».
21. Аднародная вадкасць, атрыманая злучэннем якога-небудзь рэчыва з вадой або іншай вадкасцю.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Жанр літаратурнай, мастацкай і навуковай крытыкі.
2. Кіруючыя дзяржаўныя органы; урад.
5. Орган слыху і раўнавагі ў пазваночных жывёл і чалавека.
7. Другі экземпляр дакумента, які мае аднолькавую юрыдычную сілу з арыгіналам.
9. Вонкавае аблічча.
10. Глухі гук, шамаценне, шорганне ад лёгкага руху, дотыку.
11. Прабор у валасах.
12. Паказальны або пробны экземпляр якога-небудзь вырабу, прадмета.
16. Пара года паміж зімой і летам.
17. Баявое ўзбраенне, амуніцыя воіна ў старажытнасці.
18. Дах на слупах ці іншых апорах, які ахоўвае ад сонца, непагоды.
19. Санлівасць; паўсон.
22. Прыемны пах, духмянасць.
23. Вышэйшая ступень пазнавальнай дзейнасці чалавека, здольнасць лагічна мысліць, асэнсоўваць навакольную рэчаіснасць.
24. Вялікае, звычайна хаатычнае, зборышча людзей.
25. Рашучае, энергічнае дзеянне, імклівае нападзенне.

## Адказы на крыжаванку з №24

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Вольт. 4. Дарога. 5. Дэкор. 7. Дыхаць. 8. Лазня. 9. Вока. 10. Лічба. 11. Рэтуш. 13. Статак. 15. Дбаць. 16. Лавіна. 18. Вынік. 19. Норд. 21. Німб. 23. Разетка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Вядро. 2. Выдатнік. 5. Дыктант. 6. Неўрыт. 9. Воцат. 10. Лужа. 11. Рэзюмэ. 12. Ламбард. 14. Крыўду. 17. Дысцыпліна. 19. Ніцма. 20. Нізіна. 22. Свабода.

## ● ГАРАСКОП НА 18-24 ЧЭРВЕНЯ

**АВЕН.** Дадзены перыяд стане хвалюючым для вас. Чакаецца вялікая колькасць спраў першараднай важнасці. Асаблівую ўвагу звярніце на дакументы: старанна вывучайце ўсё, што падпісваеце.

**ЦЯЛЕЦ.** Чакайце сур'ёзных змен у асабістым жыцці. Тыя, у каго яшчэ няма другой паловы, маюць усе шанцы пазнаёміцца з ёй менавіта ў гэты перыяд. Будзьце ўважлівыя да свайго самаадчування. Калі ёсць магчымасць, то вазьміце невялікі адпачынак.

**БЛІЗНЯТЫ.** Праца выйдзе для вас на першы план. Вам даручаць складанае заданне, ад выканання якога будзе залежаць ваша далейшая прафесійная будучыня. Так што паспрабуйце выканаць на пяць з плюсам! Перыяд спрыяльны для тых, хто сабраўся худзець. Любая дыета прынясе хуткі і доўгатэрміновы вынік.

**РАК.** Нямала адбудзецца падзей, якія могуць сапсаваць настрой. Старайцеся трымацца аптымістычна, інакш праблемам канца і краю не будзе. У адносінах могуць з'явіцца рознагалоссі. Магчыма, прыйдзецца пайсці на кампраміс.

**ЛЕЎ.** Вас чакае актыўны перыяд жыцця. Прыйдзецца вырашаць пытанні і ў асабістым жыцці, і на працы. Але вы з усім справіцеся! Калі водзіце машыну, будзьце асабліва ўважлівыя за рулём у гэты перыяд.

**ДЗЕВА.** Пачуццё стомленасці не раз наведае вас цяпер. Асабліва цяжка будзе ў пачатку тыдня. Падбадзёрвайце сябе самі або звярніцеся за маральнай падтрымкай да сяброў. Надайце больш увагі пажылым сваякам.

**ШАЛІ.** Вам будзе паступаць нямала прапаноў у гэты перыяд, але перш чым іх прымаць, узважце ўсе «за» і «супраць». Будзьце акуратнымі ў фінансавых пытаннях.

**СКАРПІЁН.** Вы прывыклі быць у цэнтры ўвагі, так што вам будзе не цяжка зноў апынуцца на першых ролях. Не здзіўляйцеся, што калегі пачнуць вам зайздросціць. Звярніце ўвагу на харчаванне, няхай яно цяпер будзе лёгкім. Пазбягайце канфліктаў са сваякамі, бо прымірэнне будзе доўгім.

**СТРАЛЕЦ.** Нават з самымі складанымі людзьмі вы зможаце знайсці агульную мову ў бліжэйшы час. Так што менавіта цяпер трэба вырашаць спрэчкі і абмяркоўваць складанасці. Будзьце шчодрымі ў гэты перыяд часу. Нядрэнна было б нешта ахвяраваць на дабрачынныя патрэбы.

**КАЗЯРОГ.** Адносіны з партнёрам выйдуць на новы ўзровень – станучь больш даверлівымі. Паспрабуйце яго папрасіць пра тое, пра што раней не рашаліся. У выхадныя дні не сядзіце дома, нават калі будзе дрэннае надвор'е.

**ВАДАЛЕЙ.** У вас з'явіцца спакуса адкласці рашэнне ўзніклых праблем. Не рабіце вы гэту памылку: потым можа быць ужо позна! На працы вас могуць паспрабаваць вывесці з раўнавагі. Не паддавайцеся на правакацыі.

**РЫБЫ.** Рыбам не шанцуе з грашовымі пытаннямі. Але замест таго, каб сядзець склаўшы рукі, займіцеся пошукамі дадатковага заробку. Вольны час выдаткуйце на занятк і творчасцю.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | | | 6 | | 4 | 9 |
| 7 | 1 | | | | | | | 5 |
| 9 | | | | | 3 | | | 7 |
| 8 | | | | | 1 | 4 | | 3 |
| 5 | 3 | | | | | 8 | | |
| | 4 | 9 | | | | 7 | 6 | |
| 6 | | | 8 | | | | 2 | |
| | | | | 1 | 2 | | | 6 |
| 1 | 5 | 2 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

# Пяць прычын, чаму вам неабходна падпісацца на «Рэгіянальную газету»

**«Рэгіянальная газета» – адзінае беларускамоўнае недзяржаўнае выданне Павілля. Да 25 чэрвеня вы можаце падпісацца на наша папяровае выданне на другое паўгоддзе. І вось пяць прычын, чаму варта гэта зрабіць:**



1). Менавіта падпіска можа забяспечыць сталае існаванне газеты, яе развіццё, упэўненасць у заўтрашнім дні і заўсёды. Цана індывідуальнай падпіскі на месяц – 5,50 рубля. Мы вельмі ўдзячныя кожнаму, хто ашчаджае гэту суму на падтрыманне прэсы, якой вы даверыце. Менавіта дзякуючы вам мы зможам працягваць працу.

2). Наша газета – выдатны падарунак тым, хто знаходзіцца ў месцах, дзе складана знайсці аб'ектыўную інфармацыю. Вы можаце аформіць падпіску на любога чалавека, чый паштовы адрас ведаеце. Мы ўпэўненыя, што гэты падарунак будзе вельмі дарэчы.

3). Газета – выдатная магчымасць падцягнуць беларускую мову, калі вы хацелі б валодаць ёй больш свабодна. Мы стараемся пісаць так, нібыта размаўляем з вамі.

4). Кожны нумар мы друкуем артыкулы на гістарычную тэму. Гэта могуць быць сапраўдныя адкрыцці пра тое, што адбывалася на зямлі, па якой вы штодзень ходзіце.

5). Мы вельмі зацікаўленыя ў тым, каб наша супольнасць развівалася самым лепшым чынам з усіх магчымых. Таму звяртаем увагу чытачоў на падзеі, якія лічым важнымі, і знаёмім з героямі, пра якіх, на нашу думку, важна ведаць.

## Чытайце праз тыдзень:

- Якіх спецыялістаў не хапае ў рэгіёне і якія заробкі прапануюць

## 19 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 3 м/с




Усход 4.37
Захад 21.50
Даўжыня дня 17.13

Усход 14.38
Захад 2.04
Месяц расце

Паводле rp5.by.

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Муж прыходзіць дамоў і бачыць на стале торт і 20 свечак.

– У каго сёння дзень нараджэння?

Жонка:

– У майго паліто. Яму сёння 20 год.

***

Прыехаў я ў вёску і адразу пабег у павець. Разбегся, ускочыў на сена... Вось так я і знайшоў дзядулевы вілы, якія даўно згубіў.

***

Быў адзін нармальны чалавек дома. Усё паспяваў, усім дапамагаў. Есці варыў. Гэта бабуля. Учора купілі ёй ноўтбук. Усё... Згубілі чалавека.

***

Дзяўчына з горада прыехала ў вёску да бабулі. Пахадзіла па вёсцы, засумавала і пытаецца:

– Бабуля, а куды тут у вас можна схадзіць пасля дзесяці вечара?

– Дык на вядро.

***

– Ідзі за мной, і я пакажу табе свет, поўны цудаў і тайн!

– Мы да халадзільніка?

– Ага!

***

Спазніўся мужчына на працу. Начальнік пытаецца, чаму.

– Павёў сына ў дзіцячы садок. Аказалася, не той.

– Ну?

– Пайшлі ў другі. Зноў не той.

– Ну?

– Пайшлі ў трэці. Зноў не туды. Калі збіраліся ў чацвёрты садок, сын сказаў: «Тата, яшчэ адзін садок – і я ў школу спазнюся».

***

Я быў народжаны, каб быць горшым, чым сын мамінай сяброўкі.

***

– Ты абзываў мяне ў сне.

– Я не спаў.

***

Робім копіі любых дакументаў. Арыгінал не патрабуецца.

***

Хочаце летам крыху падзарабіць? Праверце кішэні зімовай вопраткі.

***

– Вы такі начытаны! Вы што, сядзелі?

***

Я напісаў табе ў тры ночы, каб сказаць, што зусім па табе не сумую.

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Як даўно вы каталіся на ровары?



**Антон:**
– Катаюся на ровары амаль кожны дзень: горад, дача, горад. Чаго і ўсім жадаю!



**Вольга:**
– Даўно не каталася, гадоў пяць, мабыць. Як пераехала ў горад, дык больш і не каталася. Ды і ровара ўжо няма.



**Людміла:**
– Гадоў пяць таму.



**Галіна:**
– На жаль, ровару патрэбны рамонт, а так выкарыстоўваецца актыўна.



**Наталля:**
– Так, гады тры таму апошнім разам.



**Ірына:**
– Кожны дзень катаюся.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№25 (1364) 18.06.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1019. Падпісана ў друк у 9.00 17.06.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.